

Мажэна Ціханюк → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Пра здабычу торфу → 4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 26 (3346) Год LXV | Беласток, 28 чэрвеня 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**“Басовішча” — новы фільм Юрыя Каліны. Вядомы беларускі рэжысёр гэтым разам зняў кінастужку пра Фестываль музыкі маладой Беларусі „Басовішча”. У мінулым годзе прайшоў апошні 30-ы выпуск фестывалю. „Канец эпохі” — гэта дакументацыя ўнікальнай музычнай з’явы ў беларускай культурнай прасторы. У фільме „Басовішча” можна паглядзець унікальныя архіўныя стужкі трыццацігадовай даўнасці. Фільм можна паглядзець на тэлеканале Белсат.**

# Памятка або Эпітафія для „Басовішча”

Уршуля ШУБЗДА

**— Вам пэўна нялёгка было рабіць фільм пра завяршэнне фестывалю „Басовішча”?**

— Па-першае, я нават сам не хацеў рабіць фільм пра фестываль „Басовішча”, паколькі рыхтуюся да некалькіх іншых фільмаў, праводжу іх дакументацыю. Над трыма праектамі працую ўжо некалькі гадоў. Яны на розных этапах, але напрацоўкі ўжо ёсць. Але год таму, калі ўжо было вядома, што гэта будзе апошняе „Басовішча”, да мяне звярнулася дырэктар тэлеканала Белсат Агнешка Рамашэўска-Гузы і сказала, што трэба было б зрабіць фільм пра „Басовішча”, а ніхто іншы гэтага не зробіць. Трэба было прыхіліцца да просьбы шэфа і падумаць пра запрапанаваны фільм. Крыху хочучы і не хочучы пачаў займацца гэтай тэмай, прычым, калі я ўжо займаюся, то вельмі сур’ёзна, часам нават надта сур’ёзна. Трэба было ўкласці многа працы, каб пасля года атрымаўся эфект у выглядзе 53-хвіліннай стужкі — гэта стандартны фармат дакументальнага кіно ў польскім тэлебачанні. Зараз можна яго паглядзець на сайце Белсата ў беларускім варыянце, будзе і польскі варыянт, а таксама варыянт з англійскімі цітрамі. Застанецца памятка, або эпітафія для „Басовіша”.

**— Вы ўдзельнічалі ў фестывалю не толькі як глядач, але працавалі таксама з камерай. Гэта Ваш не першы, але апошні, як здаецца, фільм пра „Басовішча”. Усё-такі Вы часцей бывалі ў Барыку як глядач ці журналіст?**

— На першым фестывалі я не быў, паколькі 15 ліпеня 1990 года я якраз вянчаўся ў царкве ў Орлі і тады „Басовішча” прыехала на наша вяселле. Пасля двух дзён гулянак тыя, якія яшчэ змаглі сесці ў машыну, прыехалі з Гарадка, у тым ліку Сяргей Сокалаў-Воюш, які таксама граў нам з гітарай і спяваў „да катлета” (*смех*). Нават захавалася плёнка з вяселля, але я не выкарыстаў яе, паколькі фільм не пра тое. Я на „Басовішчы” быў разоў дваццаць, а можа і больш, перш за ўсё як журналіст, бо зараз пасля першага фестывалю я пачаў працаваць у Беластоцкім аддзяленні Польскага тэлебачання, дзе рабілі беларускія праграмы, рэпартажы, і проста трэба было туды ездзіць і запісваць тое ўсё, што там адбывалася. Фактычна першы рэпартаж для Першай праграмы Польскага тэлебачання мы зрабілі з Яўгенам Вапам у 1996 годзе і тады фактычна паказалі яго на Першым тэлеканале, але ў пірацкай версіі ёсць ён на ютубе і можна яго паглядзець (*смех*). На працягу гадоў былі дзясяткі, як не сотні розных запісаў. Мы здымалі сюжэты для перадачы „Беларускі тыдзень”, здымалі рэпартажы, рабілі запісы канцэртаў. Пасля ўзнік Белсат









і тады пачалі рабіць прафесіянальныя рэалізацыі на сем ці восем камер — матэрыялаў было вельмі многа.

**— Усе архіўныя матэрыялы, якія Вы здымалі цягам трыццаці гадоў, трэба было адшукаць, яшчэ раз да іх вярнуцца, перагледзець і часткова выкарыстаць у новым фільме. Гэта аграмадная праца і напэўна сотні гадзін падрыхтоўкі, каб узнік пяцітроххвілінны фільм?**

— Так, калі мы пачалі шукаць, аказалася, што матэрыялаў было сапраўды вельмі многа. Для дакументаліста гэта шчасце і няшчасце. Архіўных запісаў было звыш ста гадзін і то не толькі ў аддзеле ў Беластоку, не толькі ў Белсаце. Пра „Басовішча” здымаліся фільмы для некалькіх тэлеканалаў. Я іх адшукаў, перагледзеў, апісаў, зрабіў скрыпт. Фільм робіцца так, што глядзіш, але гэта ўсё трэба апісаць з *time codami*, з гэтым што ёсць на відэа, што людзі гавораць — гэта вельмі марудная праца. Той працэс доўжыўся месяцы два. Дадатковая адмыслова для гэтага фільма я запісаў можа дваццаць ці трыццаць гадзін у час апошняга „Басовішча”. Тое, што мы не паспелі зняць, дапамагалі зрабіць сябры з Беларусі і ўжо там дапісвалі ўдзельнікаў ці выступоўцаў. Атрымалася сто трыццаць гадзін суровага матэрыялу. Я столькі працы ў сваім дакументальным кіно яшчэ не меў.

**— Напэўна і выбар герояў — невыпадковы. Калі гаварыць пра падляшскіх суразмоўцаў, то вельмі сімвалічным у фільме з’яўляецца ўдзел Барбары Пякарскай, якая адкрывала першы фестываль, і яе дачкі Лідкі, якая закрыла „Басовішча”.**

— Добра склалася для сцэнарыя фільма, што была пераемнасць пакаленняў — адно пакаленне пачало фестываль, другое яго закончыла. Прычым тут не справа ва ўдзельніках — калі хацець паказаць усіх удзельнікаў, усіх выступоўцаў, гэта ў такой стужцы немагчыма. Лёгка лічачы, „Басовішча” наведала сто — сто пяцьдзясят тысяч асоб. Немагчыма іх усіх паказаць, але таксама фільм гэта не *дошка гонару*, на якой паказваем усіх заслужаных арганізатараў, выступоўцаў. Ёсць пэўная ідэя, якую я проста рэалізаваў. Атрымаўся фільм нават не пра само „Басовішча”, здаецца, а пра посткамуністычную эпоху, якая ў Польшчы на шчасце закончылася. У Беларусі яна яшчэ трывае і, думаю, яшчэ доўга будзе трываць. Гэта фільм пра тое, як мянялася культура, як мянялася музыка, як мяняліся людзі, грамадска-палітычныя адносіны на Падляшшы, на польска-беларускім памежжы — у Польшчы і ў Беларусі. Мне падаецца, што гэта важна як занатоўка таго, што адбывалася, бо гэтая эпоха ўжо закончылася — закончылася з апошнім „Басовішчам”.

чытайце ☞ 10

9 770546 196017



# Візы і подпісы

Найважнейшы для беларускай улады, ключавы і пераломны момант у іх выбарчай кампаніі, ужо адбыўся. На іх думку, вядома ж, ключавы. І адбыўся, канешне ж, таксама на іх думку... У іншых думкі могуць быць іншыя.

Я зараз гавару пра спешны як да ветру візіт міністра замежных спраў Расійскай Федэрацыі Сяргея Лаўрова ў Мінск. Так-так, яго самога!

Нават афіцыйная версія таго візіту ўражвае. Аказваецца, што самы магутны і вялікі Сяргей Лаўроў, які дробнымі пытаннямі не займаецца, гэтым разам, у гэты гарачы для Беларусі выбарчы перыяд, не паленаваўся і асабіста прыехаў утрэсці пытанне па ўзаемным прызнанні віз паміж Беларуссю і Расіяй для іншаземцаў... Ну, такая, прынамсі, рабочая версія аднаго з пытанняў гэтай высокапастаўленай сустрэчы. Пагадненне пра візы падпісалі. Такое пагадненне, маўляў, дазволіць іншаземцам свабодна перамяшчацца па тэрыторыі абедзвюх краін, атрымаўшы візу хоць у адной з іх...

Ну вось прысціпала менавіта зараз вырашыць гэтае пытанне міністру іншаземных спраў Расіі. І гэта ў той час, калі з-за пандэміі расійскі бок увогуле зачыніў расійска-беларускую мяжу. Нават для грамадзян гэтых краін, а не тое, што для іншаземцаў. Ну зараз, хіба, хоць праз іншаземцаў можна будзе што-небудзь перадаць праз тую мяжу, хіба што, калі я правільна разумею клопаты расійскіх і беларускіх улад, менавіта пра іх.

Вось па гэтым нібыта неадкладным пытанні Сяргей Лаўроў запланаваў сустрэцца не толькі са сваім калегам з Беларусі Уладзімірам Макеем, але і з самім прэзідэнтам суседняй краіны. Ну і нешта падказвае, што сустрэўся яўна не для таго, каб праверыць, ці ёсць у таго расійская віза для візіту ў Маскву на парад перамогі. Ну і хіба, каб так не падумалі недасведчаныя абывацелі, расійскае знешнепалітычнае ведамства агучыла пашыраны спіс пытанняў для абмеркавання. Аказваецца высокія асобы вырашылі паразмаўляць і пра развіццё еўразійскай інтэграцыі (зноў пра інтэграцыю), і пра ўзаемаадносіны дзвюх краін па лініі Еўразійскага Эканамічнага Саюза (зноў саюза), і па лініі Саюза Незалежных Дзяржаў і па... Адным словам размова пайшла пра саюзы! І інтэграцыі... А пра што ж яшчэ ім гаварыць?!

Ну заадно выпала між іншым абмеркаваць і каардынацыю падыходаў Мінска і Масквы на міжнародных пляцоўках, такіх як ААН ці АБСЕ. Ну раз усё адно ўжо сустрэліся і час ёсць, то чаму б і пра гэта не перакінуцца словам другім.

А вось пра „Газпрам" ні слова. Прынамсі афіцыйна. А між іншым, па версіі беларускіх органаў, структуры расійскага „Газпрама" хіба што ўмяшаліся ва ўнутраныя справы суверэннай краіны. У выбары. Намякнулі нам так з самага верху. І магчыма нават асобы яшчэ вышэйшага рангу ўмяшаліся таксама. (А куды ўжо больш вышэйшага рангу за „Газпрам"?!! Вышэй толькі хіба сам Сяргей Лаўроў!!! Ну і...).

Ну, „Газпрам", напэўна, сваю ролю ўжо выканаў. Што цяпер пра яго языком малоць у пустую. Вось візы для іншаземцаў, вось гэта важная тэма.

А ў гэты час на вуліцах беларускіх гарадоў мноства людзей выйшлі заявіць пра сваё бачанне сітуацыі ў Беларусі. І пра сваё бачанне яе будучыні, і пра свой погляд на выбары. Пра візы для іншаземцаў яны не асабліва клапаціліся. Стараліся паставіць хутчэй сваю візу ў выглядзе подпісу за якогась з кандыдатаў, пакуль яшчэ можна. Бо пасля візіту Сяргея Лаўрова многа можа памяняцца. У тым ліку і гэта права. Як многа памянялася, некалі, пасля аналагічнай сітуацыі, калі Беларусь наведаў колішні расійскі палітык высокага рангу Віктар Чарнамырдзін, які ў таксама гарачы для Беларусі час завітаў сюды ў 1996 годзе паразмаўляць пра інтэграцыі і саюзы...

І вось як і тады, і зараз пачаліся вулічныя затрыманні тых падпісантаў, якія своечасова не ўцяклі дахаты паставіўшы свой подпіс у падпісным лісце. І гэта ў дадатак да ранейшых затрыманых па заведзеных крымінальных і адміністрацыйных справах. Ці дасягне колькасць затрыманых колькасці пастаўленых імі подпісаў за сваіх кандыдатаў пакуль невядома. Усё можа стацца.

Хоць усё можа пайсці і іншым шляхам.

Ну а візы для іншаземцаў хай сабе будуць. Вялікай ролі гэта не мае. Не асабліва яны сюды рвуцца, тыя іншаземцы. Лаўроў з Макеем так пра іх клапоцяцца, а яны, няўдзячныя, не могуць правільна ацаніць іх працу.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Яны ведаюць лепш

Мурашы шукаюць ежу бязладна. Як толькі знойдуць яе, часцей за ўсё выбіраюць найкарацейшы шлях да яе, каб астатнія мурашы маглі хутка дабрацца да корму. Як гэта адбываецца? Яны проста пакідаюць пасля сябе след, які складаецца з ферамонаў. Аднак яны з часам выпарваюцца, таму чым карацейшы шлях, тым больш шанц, што астатнія змогуць адчуць яго — адсюль здольнасць мурашак знайсці самы хуткі шлях. Іх шлях таксама натхніў навукоўцаў, якія стварылі так званы алгарытм мурашак. Гэта карысна для вызначэння самых кароткіх маршрутаў транспартных сродкаў або ў сетках электрасувязі. Віртуальныя агенты абапіраюць сваю працу на паводзінах мурашак, дзякуючы чаму наступныя цэнтралі маюць магчымасць павялічыць прапускную здольнасць, пазбягаючы перагружаных участкаў, — чытаем у даследаванні zsi.ii.us.edu.pl.

Цэлы жывёл і тое, як яны рухаюцца, неаднаразова натхнялі стваральнікаў робатаў і беспілотнікаў. Дзякуючы гэтаму былі створаны прылады ў форме змяі або птушак. «Капіраванне» знешняга выгляду дазволіла не толькі вырашаць праблемы з перамяшчэннем — такія лятаючыя або ўючыся абсталяванні адразу ж маюць ідэальны камуфляж: імітацыя паводзін жывёл ці насякомых у будучыні можа прыродзе... дапамагчы. Напрыклад, навукоўцы з Варшаўскай палітэхнікі працуюць над аўтаматычнай сістэмай апылення раслін ужо чатыры гады. Яны стварылі ездзячага і лятучага робата, здольнага паспяхова падтрымліваць пчол, якія гінуць і слабеюць у выніку хвароб. Перш за ўсё, навукоўцы з ВП хочуць засяродзіцца на рухомым апыляльніку, які лягчэй кантраляваць і які больш эфектыўны — ён можа працаваць даўжэй.

Пчаліныя соты не ўтвараюцца «проста так» — на думку навукоўцаў, насякомыя будуюць іх так, каб выкарыстоўваць як мага менш матэрыялу. Нездарма тое, як уладкаваны сцены або бакі сотаў, з'яўляецца прыкладам для перайманця. Гэты метад выкарыстоўваецца пры будаўніцтве немагчымых для прабіцця безаварыйных шын для баявых машын або кузаваў для болідаў F1.

Дзякуючы насякомым, навукоўцам удалося змяніць структуру святлодыёдаў. Класічныя дыёды маюць на 50 адсоткаў слабейшае святло, чым святлодыёды, натхнёныя светлячкамі. Святло, якое выпраменьвае з брушка светлячок, менш адлюстроўваецца ў нутро. Знешнія гофры на паверхні дыёда былі распрацаваны па мадэлі канструкцыі куцікулы на скуры светлячка.

Польскія навукоўцы з хімічнага факультэта Вроцлаўскай палітэхнікі, натхнёныя прыродай, вырашылі стварыць штучны лісток, які не толькі пазбавіцца ад вуглякіслага газу, але і вырабляе паліва. Прылада мае складацца з дзвюх частак, выконваючых тыя ж функцыі, што і фотасістэма ў прыродзе.

— З нашага пункту гледжання, найбольш цікавымі з'яўляюцца, напрыклад, метан ($CH_4$) або метанол ($CH_3OH$), таму што яны могуць быць выкарыстаны ў якасці паліва. Такім чынам, цыкл $CO_2$, які ўтвараецца ў выніку прадукту гарэння, закрываецца. Наш падыход з'яўляецца інавацыйным, таму што хочам выкарыстаць на ўсім працэсе графенавы каталізатар. Хочам распрацаваць і стварыць прататып неарганічнай прылады, якая мае падобныя ўласцівасці, як натуральны лісток для перапрацоўкі $CO_2$, — тлумачыць доктар Бартламей Шыя на сайце палітэхнікі. Даследаванне будзе доўжыцца тры гады. Каманда навукоўцаў прагназуе, што іх рашэнне можа быць выкарыстана ў паліўнай галіне. Аднак перад навукоўцамі доўгі шлях.

Медыцынская і касметычная прамысловасць выкарыстоўваюць жывёл для праверкі сваёй прадукцыі. Гэта звязана з іх пакутамі. На шчасце, ужо ствараюцца прылады, якія паводзяць сябе так жа, як чалавечае цела. І менавіта на іх можна правесці ўсялякае тэставанне лекаў. Даследчыкі з універсітэта ў Таронта распрацавалі прыладу, якую назвалі *AngioChip*. Гэта мініяцюрная прасторавая структура, на якой можна вырошчваць тканкі і якая імітуе дзеянне і функцыі чалавечага арганізма. Ці скончыць гэта тэставанне лекаў і касметыкі на жывёлах? Гэтае дасягненне з'яўляецца пераломным, таму што ўдалося стварыць мадэлі печані і сэрца, працуючыя сапраўды гэтак жа, як і рэальныя органы. Мадэль сэрца нават спараджала рытмічныя ваганні, так як біццё чалавечага органа.

**Міра ЛУКША**



Сваімі вачыма

# Гарачае лета

Астранамічнае і палітычнае лета загасцявала ў польска-беларускай прасторы. Апошні тыдзень прэзідэнцкай, выбарчай гонкі ў Польшчы прыносіць сапраўдную ліхаманку галоўных байцоў гэтага змагання. Тэмпература ўнутрыпольскай барацьбы вакол нас расце вокамгненна і страх падумаць, што пасля першага туру 28 чэрвеня, будзе месца другі — 12 ліпеня гэтага года. Менавіта на праваслаўных Пятра і Паўла прадбачваецца канчатковая развязка змагання за прэзідэнцтва ў Польшчы. Калі гляджу на карцінкі як кандыдаты сустракаюцца са сваімі выбаршчыкамі і гэтыя спатканні не маюць абсалютна нічога з абавязваючымі зараз масавыя мерапрыемствы каранавіруснымі абмежаваннямі, дык сабе думаю: „А на хрэн дагэтуль тыя ўсе законы, перасцярогі?" Хіба толькі на тое, каб яшчэ больш знявярыцца да ўсялякай палітыкі. Таму незалежна ад пары года за палітыкай цягнецца заўсёды смурод. І нават найпрыгажэйшыя словы-парфумы, ці карціны-пудры не прыхаваюць паступаючага гнілля гэтай сферы чалавечай актыўнасці. Вядома, людзі, часта заціснуўшы зубы, ідуць і ўкідваюць свой голас у выбарчую скрынку заўсёды з надзеяй на лепшую будучыню для сябе і дзяржавы. Нягледзячы на эпідэміялагічную сітуацыю, раскалыханае польскае грамадства пойдзе на ўчасткі для галасавання. Ці выбарчыя падзелы і нянавісць суцішацца пасля абрання прэзідэнта? Хацелася б верыць.

Значна большая грамадская бяда адбываецца на нашых вачах у Рэспубліцы Беларусь. Там ніхто, апрача прыўладнай вертыкалі, рэальна не ведае, што дзеецца з каранавіруснай эпідэміяй сярод насельніцтва краіны. Рэальная лічба захворванняў і смярцей застаецца засакрэчанай і памаленьку прыводзіць людзей да гневу і нянавісці да існуючай улады. А тут кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка нахабна і мэтанакіравана ўжо толькі на этапе збору подпісаў пасадзіў за краты і кандыдатаў, і іх прыхільнікаў, а дзясяткі аштрафаваў толькі за тое, што тыя выйшлі на плошчы беларускіх гарадоў паставіць подпісы за кандыдатаў. Чарговы раз пах страху, а нават пралітай крыві мае даць перамогу Аляксандру Рыгоравічу ўжо 9 жніўня. Затое каляндарнае лета прынесла з сабою навальніцы, буры, падтапленні і страх людзей за сваю матэрыяльную маёмасць. З вадою і агнём, як стыхійнымі сіламі натуры ў многім не вытрымаць пабудовам, узнесеным людскімі рукамі. Менавіта ад такой летняй маланкі ў час буры згарэла і стадола маіх бацькоў. Таму, кожная бура з маланкамі для маіх бацькоў была ўспамінам той траўмы. Грамнічныя свечкі ў вокнах, малітвы, закрытыя вокны і комін, а пры тым цішыня гэта таксама неад'емная частка майго, летняга дзяцінства. І гэты, непаўторны пах „стоячага паветра" перад бурай і незабыўная свежасць пасля яе, застаюцца са мной надалей. Перыядычнасць бур пасля спякоты становіцца неад'емнай часткай кругласутачнага, летняга часазвароту.

Цяпер пасля веснавой засухі толькі сяляне ўсур'ёз заняліся сваімі сенажацямі. Тых, што аднак хацелі высушыць сена традыцыйным спосабам, а не адразу зрабіць сілас, чакала вялікае расчараванне і штодзённая праца падліваная тымі ж навальнічнымі даждажамі. Злосць і нават слёзы з'явіліся ў найбольш цярплівых. Мой родны брат з-пад Сямятыч, скасіўшы сем гектараў духмянай травы, ужо другі тыдзень змагаецца, каб уратаваць тое дабро проста перад гніллю. Каб было нават проста ўжо на подсціл каровам.

Такія сітуацыі аж надта добра памятаю са свайго дзяцінства і маладосці, калі пачатак лета прыносіў або вадар лёгкасці сонца і кветак у высушаным сене, або паветра насычанае пахам сырой, гнілой травы. Тыя, хто не дасушвалі мокрага сена, хай дзякуюць Богу. Трэба ўкласці вельмі многа працы, каб дасушыць яго адпаведна. Не раз прыходзілася выносіць сена на насілках з лугоў залітых вадою. Недасушанае сена апрача гнілога паху і непрыдатнасці ў якасці корму для кароў, паграджала яшчэ адной небяспекай. Мог наступіць эфект самазагарання, што было і прычынай нават пажараў пазнейшай парою. Гарачае лета і дажджлівыя буры і зараз вакол нас.

**Юген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Вучні самі хочуць па-за ўрокамі размаўляць па-беларуску. Для іх гэта моўнае практыкаванне

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Ужо ў пачатковай школе я ведала, што магу быць настаўніцай. Заўсёды цікавілі мяне гуманітарныя прадметы. Калі закончыла беларускую філалогію, спачатку пайшла працаваць у Беларускі музей у Гайнаўцы, пасля працавала з моладдзю ў ОГП, а з верасня 2019 года я — настаўніца ПШ № 1 у Гайнаўцы

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Тут адказ можа быць толькі адзін. Маім ідэалам настаўніка беларускай мовы з'яўляецца Іаланта Грыгарук. Яна добразычлівая, з вялікім сэрцам для вучняў і людзей, цярплівая.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Так, супрацоўнічаю. Мы сустракаемся на метадычных канферэнцыях для настаўнікаў, якія арганізуе Іаланта Грыгарук. На пачатку сваёй працы я атрымала падтрымку ад настаўніц Анны Франкоўскай і Эвы Іванюк.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— У маім выпадку гэта Беларускі музей у Гайнаўцы. На працягу года мае вучні мелі нагоду паглядзець пастаянныя і часовыя экспазіцыі, удзельнічалі ў майстар-класах. У нас многа гульняў і экскурсій у музей на выстаўкі або канцэрты.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— На жаль, праектаў у нас няма.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Усе дэкламатарскія конкурсы.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Зразумела, бацькі ахвотна дапамагаюць. Я магу разлічваць на іх дапамогу, калі арганізую для вучняў сустрэчы з мясцовымі беларускімі дзеячамі.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Гэта для мяне складанасць. Апрача навукі трэба яшчэ прыцягнуць дзяцей на ўрокі, заахвоціць іх да ўдзельніцтва, надзяліць усіх увагай. На маіх уроках яны не сядзяць за партай, а проста падзелены на групы. Часта выкарыстоўваю самастойна створаныя анлайн-віктарыны і шмат навуковых дапаможнікаў. У нас многа гульняў і экскурсій у музей на выстаўкі або канцэрты.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Тры гадзіны ў тыдзень для мяне дастаткова.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**



**Мажэна ЦІХАНЮК** нарадзілася 30 лістапада 1984 года ў Гайнаўцы. Закончыла Гайнаўскі белліцэй і беларускую філалогію на Універсітэце ў Беластоку. Пасля вучобы працавала ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы а пасля 11 гадоў займалася з моладдзю ў ОГП. У яе невялічкая сям'я — муж і пяцігадовы сынок. У вольны час любіць чытаць кніжкі і шпацыраваць па Белавежскай пушчы. Жыве ў Гайнаўцы.

— Я працую толькі адзін год у школе і яшчэ няма ў мяне лаўрэатаў.

**— Ці паводле Вас падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Для класаў І-ІІІ дапасаваныя, але для старэйшых ужо не. Яны не надта вабныя ні для вучня, ні для мяне.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Ох, цудоўнымі з'яўляюцца «Лемантар» і «Сцэнарыі заняткаў для І класа пачатковай школы». Бурныя апладысменты для аўтара!

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Гэта будзе Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Яго творчасць адыграла важную ролю ў працэсе дэмакратызацыі беларускай літаратуры. Яго творы характарызуюцца ўвагай да жыцця прыгоннага селяніна, яго звычаяў, абрадаў.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Ужо чарговы раз чытаю «Бабскія гісторыі» Міры Лукшы.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Я пастаянна чытаю «Ніву» і «Czasopis».

**— Якое паводле Вас самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Вельмі цікавымі з'яўляюцца фэсты «І там жывуць людзі» і «Культура на сходах».

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Абавязкова! Вучні самі хочуць размаўляць. Для іх гэта моўнае практыкаванне.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— На шчасце ў мяне няма такіх успамінаў.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Здаецца, няма такога, што мяне палохае і наклікае стому.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Яшчэ няма.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Надта коратка працую, каб мець такія ўзнагароды.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Сілу дае мне сям'я, а натхненне дробныя рэчы навокал.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Калі мае вучні ацэньваюць маю працу і кажуць, што яны шчаслівыя, што ў іх такія прыемныя ўрокі беларускай мовы.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— У нашым класе ёсць бел-чырвона-белы сцяг і Пагоня.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Думаю, што многа залежыць ад выхавання ў сям'і, ад адукаванасці людзей і ад нас, настаўнікаў.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

*Адгалоскі*

## Не служыў беларускаму народу

У «Ніве» ад 22 сакавіка гэтага года рэд. Ганна Кандрацюк у артыкуле «Кастусь Каліноўскі — герой ён, ці мяцежнік» апісала лютаўскую сустрэчу ў Цэнтры праваслаўнай культуры ў Беластоку з праф. Алегам Латышонкам. Сустрэча датычыла героя беларускага і польскага народаў, кіраўніка Студзеньскага паўстання 1863-1864 гадоў супраць маскоўскай акупацыі зямель Вялікага Княства Літоўскага (у тым этнічных беларускіх зямель) і Польшчы.

На гэтай сустрэчы адчувалася беларусафобія. Так была падабрана публіка — не было шырокай інфармацыі аб сустрэчы.

Адзін з удзельнікаў сустрэчы, праф. Анатоль Адзіевіч, старшыня архаічнага таварыства «Русь» раіў рэд. Ганне Кандрацюк, каб беларусы на свайго героя выбралі маршала былога Савецкага Саюза Васілія Сакалоўскага. Маршал нарадзіўся на Беласточчыне — у Козліках каля Заблудава. Але ён не служыў беларускаму народу. Ён служыў аўтарам бальшавіцкага генацыду: Леніну і Сталіну. Таму не можа быць героем беларускага народа.

**Георгі Зюзя з Рудні, Варшава**

## Мы з „Нівай” летам

У некаторых вёсках Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета „Ніва” карыстаецца даволі вялікім зацікаўленнем. „Ніву” № 24 ад 14 чэрвеня гэтага года чытала сама менш 30 жыхароў, між іншым, Альхоўкі, Ахрымоў, Заблотчыны, Лешукоў, Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Міклашэва, Міхнаўкі, Нараўкі, Падляўкова, Плянты і Сушчага Барка. Зараз маем доўгія летнія дні і мне хапае часу на тое, каб наведаць ніўскіх чытачоў. Ездзіў я з сябрам з Гайнаўкі ягоным самаходам. Ён рабіў фотаздымкі прыгожых летам закуткаў Нараўшчыны. Я меў час пагутарыць з паэтэсай Верай Радзіванюк з Міхнаўкі, Аляксеем Сухадолам з Падляўкова, Мікалаем Варанецкім з Альхоўкі і Верай Клімюк з Плянты.

Была нагода паслухаць кожнага са шматгадовых ніўскіх чытачоў. Спадарыня Радзіванюк пастаянна робіць падпіску на „Ніву”. Яна напісала новы верш і прыгожа яго прадэкламавала, прысеўшы на лавачцы пад ліпай. Мікалай Варанецкі, настаўнік-пенсіянер, беларускі часопіс купляе кожны тыдзень на пошце ў Нараўцы. Ён пахваліўся сваёй багатай падручнай бібліятэкай. Наша чытачка Вера Клімюк зараз наводзіць рамонт у сваім мураваным доме. Яна паказала свой вельмі дагледжаны прыдамашні агародчык з рознай агароднінай. А яна ж на калясцы...

Нашы чытачы любяць сваю родную беларускую мову. Яны чытаюць беларускі штотыднёвік, каб не развучыцца чытаць і пісаць па-беларуску. „Ніву” трэба купляць і чытаць. Беларускі тыднёвік найбольш піша перш-наперш пра нас, беларусаў, ды пра важнейшыя падзеі на Беласточчыне. Амаль у кожным нумары роднай газеты ёсць артыкулы, рэпартажы і дописы з жыцця жыхароў Нараўчанскай гміны ды суседніх. Штотыдзень ёсць цікавы гараскоп. А дзеці чытаюць дадатак да „Нівы” — „Зорку”. **(яц)**




# Нязгода на здабычу торфу




**У Гміннай управе ў Чыжах 18 чэрвеня гэтага года адбыліся грамадскія кансультацыі на тэму планаванай здабычы торфу на лугах паміж вёскамі Кленікі Чыжоўскай гміны ды Гародчынам і Градочнам Нараўскай гміны. Улады суполкі «Вокас» з Лосіц звярнуліся да ўлад Чыжоўскай і Нараўскай гмін з просьбай так змяніць Студыю ўмоў і накірункаў прасторавага добраўпарадкавання гмін, каб на іх тэрыторыі суполка магла здабываць торф. Грамадскія кансультацыі тычыліся праекта змен на тэрыторыі лугоў вёскі Кленікі, дзе суполка «Вокас» намерваецца здабываць торф і збудаваць прадпрыемства па здабычы торфу. На тэрыторыі Нараўскай і Чыжоўскай гмін суполка «Вокас» з Лосіц узяла ў доўгатэрміновую арэнду або купіла дзясяткі гектараў лугоў і канчаткова плануе здабываць торф на каля 170 гектарах угоддзяў. Суполка «Вокас» разлічвае, што ў час чарговых рашэнняў памяняецца сельскагаспадарчае выкарыстанне лугоў і ў выніку стане магчымым здабыча торфу. Мясцовае насельніцтва, перш за ўсё Нараўскай гміны, завязала Грамадскі камітэт ахова тарфяных лугоў з мэтай супрацьставіцца падрыхтоўцы да здабычы торфу на лугах паміж вёскамі Гародчына, Градочна і Кленікі. Тлумачаць яны, што ў выпадку здабычы торфу моцна панізіўся б узровень вады на лугах і палях у наваколлі планаванай інвестыцыі і гэта спрычынілася б да абмежавання сельскагаспадарчай прадукцыі, а нават да яе спынення ў непасрэдным суседстве торфаапрацовак, а таксама знішчалася б натуральнае асяроддзе.**

На грамадскія кансультацыі, якія праходзілі ў канферэнц-зале Гміннай управы ў Чыжах прыбылі жыхары Кленік, Гародчына, Градочна, Ляхоў і асобы зацікаўленыя планаванай торфаздабычай. Прысутнічала таксама некалькі радных Чыжоўскай гміны.

— Мы ў змене студыі вылучаем тэрыторыю з доказанымі залежамі торфу і ўчастак на торфапрадпрыемства, — заявіла галоўная праектант змены Студыі ўмоў і накірункаў прасторавага добраўпарадкавання Чыжоўскай гміны Іаанна Ліпская, якая са сваімі супрацоўнікамі вяла кансультацыі.

Удзельнікі кансультацыі шкадаваліся, што на спатканне не прыбылі войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк і прадстаўнік суполкі «Вокас» з Лосіц. Суполка плануе здабываць торф у невялікай адлегласці ад сельскагаспадарчых лугоў мясцовых сялян і яны асабліва апасаюцца абмежавання або нават спынення там сельскагаспадарчай прадукцыі, аб чым гаварылі ў час сустрэчы. Працэс змены Студыі ўмоў і накірункаў прасторавага добраўпарадкавання гміны Чыжы пачаўся з таго, што Рада Чыжоўскай гміны прыняла раней адпаведную пастанову.

чытайце ☞



■ Прафесар Віктар Катоўскі



■ Раіса Бэндычук

— Наша гміна зараз дзейнічае ў цяжкіх фінансавых умовах. Хочам ратаваць нашу гміну ад заняпаду, таму важныя нам падаткі ад здабычы торфу, — сказаў радны Чыжоўскай гміны з Кленік Дар’юш Базылюк.

Геолаг Станіслаў Пазьдзёр, супрацоўнік галоўнага праектанта змены Студыі ўмоў і накірункаў прасторавага добраўпарадкавання таксама звярнуў увагу на падаткі як на козыр ад здабычы торфу. Аднак у час спаткання не было ні прадстаўніка суполкі «Вокас» з Лосіц, ні чыжоўскіх чыноўнікаў, каб выказацца на тэму падаткаў ад торфаздабычы.

Торф спрычыняецца непасрэдна да ахалоджвання асяроддзя. Здабыча торфу спрычыніцца да паніжэння ўзроўню вады на сельскагаспадарчых лугах у наваколлі планаванай інвестыцыі. Тарфяныя лугі тут і зараз перасушаны і трэба іх абвадняць, будуючы застаўкі ў равах і праводзячы іншыя гідралагічныя інвестыцыі, — сказаў прафесар Віктар Катоўскі і дабавіў, што зараз ужо адыходзіцца ад выкарыстоўвання торфу пры вырошчвання агародніны. Заклікаў ён мясцовыя ўлады адмовіцца ад здабычы торфу і пакінуць тарфянікі некранутымі.

Прысутныя на спатканні сяляне моцна апасаюцца адмоўных паслядоўнасцей планаванай торфаздабычы на сельскагаспадарчую прадукцыю і навакольнае асяроддзе.

— Ужо зараз сохнуць дрэвы ў лясах, на лугах і палях вельмі нізкі ўзровень вады, а калі пачнуць здабываць торф, будзе яшчэ намнога горш у гэтым плане. Калі мы ехалі зімой у Міхалоўскую гміну, каб паглядзець вадаём на месцы здабычы торфу, убачылі чорныя палосы паабапал дарогі, чорныя стоўбікі каля яе і такімі могуць быць нашы дарогі, калі тут здабываўся б торф. Чорны торф горшай якасці ляжаў там каля вадаёма. Калі б у нас сталі дабываць торф, навакольныя лугі былі б забруджаны чорным тарфяным пылам і як нам тады пасвіць кароў? — пытала Раіса Бэнэдычук з Ляхоў, якая гадуе 40 кароў і цялят.

— Грузавыя машыны з торфам хутка знішчылі б дарогі. Хто будзе нам тады даваць грошы на рамонт дарог? — пытала радная Нарваўскай гміны з Градочна Анна Яканюк.

Менавіта жыхары Градочна, Гародчына, Ляхоў і суседніх вёсак завязалі Грамадскі камітэт аховы тарфяных лугоў. Напісалі петыцыю і здолелі сабраць пад ёй ажно каля чатырох тысяч подпісаў. У петыцыі выказалі яны нязгоду на здабычу торфу на 170 гектарах лугоў у Нарваўскай і Чыжоўскай гмінах. Заклікаюць яны войтаў і радных абедзвюх гмін не даваць згоды на адкрыццё тарфяных кар’ераў і пераконваюць іх аб шкоднасці торфаздабычы для навакольнага асяроддзя і сельскагаспадарчай прадукцыі.

— Грамадскі камітэт аховы тарфяных лугоў паўстаў дзеля супраціву здабычы торфу на лугах у Нарваўскай і Чыжоўскай гмінах. Нам самае важнае, што нельга было б вярнуць знішчанае акружаючае асяроддзе да першапачатковага стану. Мы сабралі многа подпісаў у падтрымку нашых пастулатаў. Людзі апасаюцца адмоўных паслядоўнасцей ад здабычы торфу і то не толькі мясцовыя жыхары, але і асобы, якія тут купілі дамы з-за незвычайнай прыроды, — сказала Анна Яканюк з Градочна.

Прысутныя на спатканні заявілі, што цяпер робіцца змены, каб пазней можна было памяняць сельскагаспадарчае выкарыстанне лугоў на магчымасць здабычы там торфу. У час спаткання былі таксама запрэзентаваны нядаўна запісаныя выказванні мясцовых жыхароў. Гаварылі яны, што не згаджаюцца на здабычу торфу, звярталі ўвагу на яе адмоўныя паслядоўнасці для сельскагаспадарчай прадукцыі і здароўя мясцовага насельніцтва, якое мусіла б дыхаць тарфяным пылам, які паўставаў бы ад прасушанага торфу.

— Мы супраць здабычы торфу. Вада з нашых пясчаных палёў сплывала б у кар’ер і пазней у вадаём на яго месцы. Тады нашы лугі і палі засыхалі б. У час здабычы торфу моцна знішчаецца прыроднае асяроддзе і няма магчымасці вярнуць яго да папярэдняга стану. У нас павінна разгортвацца сельскагаспадарчая прадукцыя, вытворчасць здаровага харчавання і турызм. Нашы лугі і драўляная архітэктура прыцягваюць турыстаў і мы павінны ісці ў гэтым напрамку. Тут абшар «Натура-2000» і трэба нам ставіць на агратурызм і сельскагаспадарчае выкарыстанне палёў, а не на шкодную для асяроддзя торфаздабычу, — сказала Раіса Бэнэдычук з Ляхоў.



Анна Яканюк



Дар’юш Базылюк



Іанна Ліпская — у цэнтры

— Атрымаеце з падаткаў сто тысяч злотых, паколькі тут меншая плошча здабычы торфу, чым была ў Міхалоўскай гміне і гэта не будзе мець рашучага ўздзеяння на будучыню Чыжоўскай гміны. Торфаздабыча не зменіць умоў дзейнасці гміны, толькі пагоршыць суадносіны з суседзямі, — заявіў жыхар Нарваўскай гміны.

Радныя Нарваўскай гміны не згадзіліся змяніць Студыю ўмоў і накірункаў прасторавага добраўпарадкавання, маючы на ўвазе адмоўнае стаўленне мясцовага насельніцтва да торфаздабычы ў час грамадскіх кансультацый, якія адбыліся ў канцы мінулага года ў вёсцы Гародчына і беручы пад увагу пастулаты заснаванага нядаўна Грамадскага камітэта аховы тарфяных лугоў. Паўстаў ён дзеля арганізаванага супраціву планаванай здабычы торфу на лугах паміж вёскамі Гародчына, Градочна і Кленікі. Мясцовыя жыхары прыйшлі перш за ўсё на кансультацыі, каб больш даведацца пра здабычу торфу і яе паслядоўнасці. На кансультацыі прыбыў прадстаўнік Цэнтра аховы водна-балотных тэрыторый, прафесар Інстытута батанікі Варшаўскага ўніверсітэта Віктар Катоўскі, спецыяліст па пытаннях асушвання і абвадненяня тарфянікаў. Прафесар Віктар Катоўскі паінфармаваў сабраных пра адмоўнае ўздзеянне асушвання дрыгвяністых абшараў на клімат і ў выніку на жыццё звычайных людзей.

— Водна-балотныя тэрыторыі фарміруюць наш свет. Яны рэгулююць клімат, ахоўваюць перад засухай і паводкамі. Тарфянікі займаюць каля 3% плошчы кантынентаў, але знаходзіцца ў іх удвая больш вугалю, чым ва ўсіх лясах на нашай планеце, якія распасціраюцца на 30% паверхні кантынентаў. Дабываючы торф, выкідваецца вугаль у атмасферу ў выглядзе вуглякіслага газу, што спрычыняецца да ацяплення клімату. Калі яшчэ на некалькі градусаў ацепліцца клімат, будзе кліматычны крызіс на нашай планеце. Аднак мясцоваму насельніцтву самае важнае становучае ўздзеянне залежаў торфу на акружаючае яго навакольле.

— Трэба дамовіцца на супольную сустрэчу радных Чыжоўскай і Нарваўскай гмін у справе планаванай інвестыцыі здабычы торфу. Мы павінны выпрацаваць супольны падыход да прапанаванай інвестыцыі і захаваць добрасуседскія адносіны, — звярнулася ў канцы спаткання з заклікам да радных Анна Яканюк з Градочна.

Заўвагі да змены Студыі ўмоў і накірункаў прасторавага добраўпарадкавання Чыжоўскай гміны можна заяўляць у Гмінную ўправу ў Чыжах на працягу 21 дня.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Простыя вынаходствы і бяспечны адпачынак

У гэты раз інакш як заўсёды сустракаем канікулы. Многія кажуць, што найбольш стаміліся бацькі. Яны кожны дзень сачылі за вашымі ўрокамі, часта да позняй гадзіны ночы. Як не дзіўна, найбольш стаміліся бацькі падлеткаў і моладзі. Ім безупынна прыходзілася адказваць на пытанні, звязаныя з пандэміяй і пагрозамі ад яе. Страх перад заразай па-рознаму паўплываў на псіхіку моладзі. Адны «заядалі» яго смачнымі стравамі (частка з нас пачала кухарыць і пячы), другія спалі як суркі, з надзеяй, што хутчэй скончыцца час ізаляванасці.

Зараз аднавіліся сямейныя шпацыры, вандроўкі і экскурсіі. Асабліва веласіпедныя. За час эпідэміі, як прыкмецілі спецыялісты па маркетынгу, у чатыры разы пабольшала раверыстаў на веласіпедных сцежках і дарогах. Ровар — цудоўнае вынаходніцтва — ён дазваляе перамяшчацца, адпачываць і мацаваць імунную сістэму. Вярнулася мода на ролікі і самакаты. Аднак гэта ўсё нясе пагрозу. Часам залішняя актыўнасць прыводзіць да няшчасця. Шмат раверыстаў, пасля перыяду ізаляванасці згубіла засяроджанасць і лоўкасць, у сувязі з чым лавінай пабольшаў лік дарожных катастроф. Яго ахвяры — маладыя людзі, якія бліжэйшыя канікулы правядуць у гіпсавых гарсэтах, з мыліцамі і бінтамі. Таму ў час канікул бацькі не змогуць добра адпачыць. Яны з падвойнай чуйнасцю будуць сачыць за вашай актыўнасцю і развагай. Падумайце пра іх і паспрыяйце іх адпачынку.

Найлепш малым дзеткам. Яны не згубілі прыроднай весялосці і па-ранейшаму сваволяць. Ды калі бачыш радасць дзяцей, пакідаюць стомленасць і турботы.



Фота ГК

Файна сустрэць такую кампанію пасля цяжкага працоўнага дня. Як нядаўна на сцежцы для прагулак паўз раку Белую. Разам з матушкай Тацянай Ваўранюк, у падскоках, цягнулася вясёлая грамада: Матэвуш, Ніка і Сара. У іх была свая мэта і задача. Як сказалі нам нашы сябры, яны выправіліся на раку, каб паглядзець на дзікіх качак. Іх настрой мы ўлавілі на здымку. Тут адлюстравалася ўсё: лета і радасны, бяспечны адпачынак пад крыламі матушкі Тацяны, якая запрасіла на прагулку яшчэ і дзяцей сваіх сяброў.

(гак)



Фота ГК

Міра ЛУКША

## Канікулы

У старажытным Рыме час гарачы,
названы іменем сабачым:
Сірыуса, што самай яркай зоркайззяе,
у сузор'і яе Псом Вялікім называюць.
Рымскі кесар зваў тады на гульні,
а мы маем свае гульні канікульныя.
Вольны час ад школы — вецер, сонца,
час расцягнуты ў радасці бясконцай.
Хоць дзень доўгі, час, усё ж, карацее,
ці пакарыстацца добра ім умеем?
Хто ў вёсцы — той паможа ў гаспадарках,
загарэўшы ўвесь на сонцы аж на скварку,
хто з бацькамі ці адзін у адпачынку
дзесь на пляжы грэе бокі, смажыць спінку,
сыпне дождժык — няма часу на нудоты,
граем у гульні настольныя, у судоку,
тэлефон, тэлевізар ці камп'ютар уключым,
каб пачуць, што ў свеце — ды выключна,
бо прырода нас заве, і ў небе зоркі,
каб не засядзеліся ў каморках,
і ў канікулы набраліся здароўя, сілы,
ды пасля вярнуліся ў кампанію мілую
свайго класа, у сваю школу, што ціха плача
ўжо даўно за гоманам дзіцячым.

УВАГА КОНКУРС! № 26-20

Не каваль, а з абцугамі (кляшчамі).
Р..

(з народнага)

Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 5 ліпеня 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на загадку № 22-2020: маланка. Узнагароду, «Беларускую маляванку для дзяцей і дарослых» (з прыгожымі малюнкамі ды цудоўнымі вершамі) выйграла Эва Петрышык. Віншуем!

# Міфы старажытных беларусаў

**НАВАЛЬНІЦА** – у казках і легендах навальніцу з маланкамі і градам пасылаў Усявышні, каб ён пабіў нячысцікаў і чарцей.

Самая страшная навальніца прыходзіла ў канцы лета. Чаму якраз тады? Людзі верылі, што пасля Купалля на зямлі распладзілася ўсякая нечысць і трэба яе прыбраць, каб не пашкодзіла людзям і жывёле. Гэтую ноч назвалі «рабінавай» ці «верабінай». Праз ноч састрасалася неба грымотамі, бліскамі маланкі, ішоў праліўны дождж, дзьмуў страшэнны вецер. Людзі верылі, што ў гэты час з пекла на свет выходзілі ўсе ліхія сілы, якія нібыта спраўлялі сваё гадавое свята.

Людзі верылі, што ў «рабінавую ноч» усе стыхіі прыроды ядналіся, каб дашчэнту знішчыць нячыстую сілу.

Навальніцы з маланкамі баяліся ўвесь час. І каб маланка не спаліла хату, людзі ў якасці абярэгу вывешвалі непамыты велікодны абрус ці прывязвалі пад страху чырвоныя ніткі. На Падляшшы да нашых часоў захаваўся звычай ставіць у акне запаленую грамнічную свечку.

Старажытныя беларусы верылі, што маланка нараджаецца ад каменя. Калі людзі выпадкова знаходзілі ў зямлі камяні-сякеры, прылады каменнага веку, дык лічылі іх грамавымі стрэламі. Паводле павер'яў калі Пярун хацеў кагосьці пакараць, ён разбіваў скалы і пускаў на зямлю агонь-маланку. Беручы ў рукі каменны молат ці вясёлку за грымотны лук, а маланку за стрэлы, адным ударам разбіваў хмары і тады вада сцяной лілася на зямлю. Існавала таксама павер'е, што Пярун трымаў у руках велізарныя жорны, цёр імі і стукаў адзін ад адзін, ствараючы гром і маланку, а перуновымі стрэламі ўяўлялі аскепкі жорнаў, што адскочылі ад удараў.

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)*

**гак**



Фота ГК

*Васіль Жуковіч*

## Грукатаў над краем гром

Грукатаў над краем гром,  
звозіў хмары над сялом,  
над палямі, над лясамі,  
хмары цяжкія – з дажджом.  
Цёплы дождж папрацаваў,  
добра поле паліваў,  
усяму што піць прасіла,  
ён вады не шкадаваў.  
І заўважыла сяло:  
усё прыкметна падрасло:  
Многа ў лузе будзе сена –  
там трава вышэй калена.  
Ля дарогі збажына  
узнялася – як сцяна,  
на гародзе агуркі  
параслі як шчупакі.  
А ў дзяўчынак, хлапчукоў  
навіна для сваякоў:  
на суніцы ў лес ішлі  
і лісічкі там знайшлі.  
Грукатаў над краем гром,  
звозіў хмары над сялом,  
над палямі, над лясамі,  
хмары цяжкія – з дажджамі.

## Тушаныя пліскі — прысмак лета!

Зараз пайшлі дажджы і ёсць надзея на высып лясных грыбоў, асабліва жоўтых лісічак (у нас іх называюць яшчэ «пліскі»). Сёння прапануем вам просты далікатэс родам з Трасцянкі. Рэцэпт падказала нам настаўніца Галена Тапалянская, якая на ходу захацела пачаставаць мяне з Мірай Лукшай. З таго часу — гэта святочная і любімая страва ў маёй сям'і.

Паспрабуйце і вы ажыццявіць гэты просты рэцэпт.

**Складнікі:**  
200 грам лісічак,  
5-7 сярэдняй велічыні бульбін,  
1 цыбуля,  
2 лыжкі алею,  
1,5 шклянкі варыўнага расолу (або вады),  
соль і перац да смаку,  
зялёная пятрушка або кроп для пасыпкі.

На разагрэтай глыбокай патэльні з алеем пакласці пачышчаныя і памытыя лісічкі, на іх парэзаную ў круглячкі сырую бульбу а наверх — парэзаную ў кубікі і скламараваную цыбуліну. Пасаліць і паперчыць да смаку і заліць расолам або вадой. Затым падрыхтаваныя прадукты шчыльна накрыць накрыўкай і тушыць на малым агні датуль, аж бульба зробіцца мяккай (25-30 хвілін). На канец усё яшчэ прыправіць і пасыпаць зялёнай пятрушкай або кропам.

Для аматараў мясных страў замест алею прапануем падсмажыць 200 грам падвэнджанага бачку і пры тушэнні пакласці яго з цыбулінай наверх.

Страву падаваць з маласольным агурочкам.

Смачна есці!

**(гак)**



## Польска-беларуская крыжаванка № 26-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 22-20:**

Каляровы, бяроза, вяндліна, до, які, лінк, мама, пульс, няня, дзеяслоў. Мэта, клан, імя, абдзнанне, лянок, ярд, Ас, роля, возік, лязо, ваніль, ды, сто.

Узнагароду, кніжку «Вялікія і славутыя людзі беларускай зямлі», выйграў **Кшысь Салавянюк.** Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Stolica | Minus | Grzyby | |
| | Struś | | Ryż | Maniera | | Pokój<br>Lok | | | |
| | | | Maliny<br>Taniec | | | | | | |
| | Rus | Bilet<br>Kapa | | | | | | Lipa | |
| | Wakacje | | | | | | | | |
| Wstyd<br>Plecaczek | | | | | | Si<br>Czy | | | |
| Praca | Papryka | | | | | | | | |
| | | | | | Igor | | | | |


Фота Адама Паўлоўскага

**Сымон РАМАНЧУК** нарадзіўся ў вёсцы Гушчэвіна Нараўчанскай гміны ў 1936 годзе. У Беларускім дзяржаўным універсітэце ў Мінску прысвоіў ён дасканала беларускую, рускую і лацінскую мовы, якія потым выкладаў у Агульнаадукацыйным ліцэі ў Міхалове. Як член Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" апублікаваў ён у „Ніве" ў шасцідзясятыя гады шэраг апавяданняў, м.інш. „Дзядуля", „Чалавек", „Ідуць дні, дзянёчкі". Неўзабаве Сымон Раманчук заняўся вывучэннем праваслаўнага багаслоўя ў Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве, дзе абараніў доктарскую дысертацыю, затым прыняў манаскі пострыг і быў рукапалажаны ў святарскі сан. Стаў ён архіепіскапам Лодзінска-Пазнаньскай епархіі. Памёр 28 чэрвеня 2017 года, на 81 годзе жыцця.

— Я вельмі любіў чытаць. Будучы маладым хлопцам, чытаў я дома нават пры запаленай лучыне, а пасля ўжо пры газавай лямпе. Вельмі многа чытаў падчас вучобы ў Мінску, а пасля пачаў таксама пісаць.

У «Ніве» ў апошнія гады жыцця друкаваў свае апавяданні пад псеўданімам складзеным з імён сваіх бацькоў Марыя Сашка. Апавяданне «Чарадзеі» з'яўляецца ягоным апошнім літаратурным тэкстам. Рукапіс твора прыслаў ён у рэдакцыю «Нівы» ў маі 2017 года.

Сымон РАМАНЧУК

# Чарадзеі (ч.4)

Хлопец пайшоў да сваіх «хлябоў», крыкнуў здалёк: „Do widzenia, do jutra!" Замахаў рукамі, пераслаў дзяўчыне пацалунак (ага, сам сябе пацалуй!), за ім пацягнуўся бабскі хвост...

Іаланта ледзь давалаклася да хаты, злосная — перш за ўсё на сябе, чаго было валачыцца другі раз? Вось табе і паварот ад варот! Не ўсё будзе па-твойму! Крычы колькі хочаш: «лялька», «царэвіч», «араб», «шэйк», «султан»! Ён жа НЕ чуе! Яму ўсё гэта як паветра! Пакараеш-накажаш? Ты думаеш — заўсёды будзе па-твойму? НЕ будзе! Вучыся праўды! Медыцыну вывучаеш? Ты рэальнасць пазнавай. Бо дагэтуль усё было як ты хацела. Вучыся пакорлівасці. НЕ ўвесь свет твой, панюся! І не ўсе будуць «танцаваць» па-твойму. Па лабэсіне дастала? — Дастала. НЕ паляцеў за табой? — НЕ пабег? Ну і што, што пра мужынятаў спытаў, а што — не людзі яны? А калі б былі ў цябе ў родзе — то што? Выраклася б? А тут і заззлавала!..

Расхвалявалася Іаланта... На занятк не пайшла. — Бачыш, Арыядна, дайшло да мяне вось то: зазнайка я! Усе бегайце наўкруг мяне! Царэўна я з краіны казачнай. Паклон перада мной — на калені! А тут ён узяў дый НЕ стаў!.. Табе ж паэзію чытаў, ды і якую! Мала табе — ты яго, як рыбку залатую, служыць табе заўздаць хацела? Мужынамі ён цябе і ацвярозіў!

— Ведаеш, Арыядна, хоць ён і «хлебнік» базарны, а я цяпер толькі пасля «Негра» ўявіла сабе, што дасюль «дзярэ носа» перад цэлым светам: што замахнулася на касу панскую-царскую, от дурніца, бо ці ж сава, Арыядна, можа ўрадзіць сокала? На ядлоўцу, як хтось з лясных людзей мудра сказаў, вішні не растуць. Я не надзвычайная. Нос апусці. Мужчына ёсць мужчына! Не Сонца вакруг Зямлі верціцца-круціцца, Сонцу і пакланіся. Што мы, бабіцы, бздычымся — войкаем, ручкі цалуйце. А колькі баб на аднаго мужыка? МЫ каралевы-царыцы-княгіні, а ён возьме якуюсь папялушку-капцюшку, і шчаслівы будзе! Не-не, паняла я, што за хлопца біцца-ваявацца трэба. Сілай яго вырваць ад другой, бо тая ўзяла і распаясалася і разам з хлебам — прадаўца ў карзіну і паклала. Разумнейшая ад мяне!

— Пазлавала я, пашчэнкамі-зубамі паляскатала, пагрызлася і хопіць. Бо забыць яго, халерніка — не магу! Падружка — пойдзем! Склей ты з ім мяне якась, хопіць маёй фанабэрыі!

* * *

Яны паехалі, Віялета сказала: — А ён жа — сын хлебны, гаспадарскі, часам хлеб прадаваць-прымаць дапамагае, добрае дзіця. Ён у фільмавай школе на Таргоай, на аператара-здымшчыка фільмаў вучыцца! Хлопец паслушны — хоць прыгожы на дзіў. Кілаграмамі і сюды кнігі паэзіі цягае — на хвілінку вольную, ды ўсё — час большы — ён у кніжку. Гляньце, дзеванькі, сам князь з'явіўся — ідзе, шчасце маем! Ідзе наш султан!

Арыядна паглядзела, уздыхнула: — Аператар? Гэта ж ён ёсць самы Брэд Піт нейкі, малады Том Гоўкс — яго бы самога здымаць! Юрко, значыць.

Хлопец усмешкай абліўся... — О-о, русалкі ў нас! — і да Іаланты адразу: — Што ж вы ўцяклі-адплылі тады ў даль сінюю, марскую, пані? Сіньёрыта? Ну, спытаў тады пра мужынаў, больш для смеху чым для праўды, ну, няўдзячна бабахнуў, сказаў, наплёў, а вам тады адразу ўцякаць? Што я — гнаць буду вашу рэйтэраду? Вы ва ўцёкі — я за вамі? Яшчэ можа крычаць, каб падумалі, што крадзеж якая! Бабы ж навокал раты паразяўлялі — сенсацыі чакаюць. Шуму нарабіць? — І я стаю, аслупянелы, а мне бы вам сказаць — а вас ужо няма. Добра, што пані Віялета вас знайшла, вы ж з аднаго дому. Ну, хопіць злаваць на мяне, балбатуна, я не быў далікатны, будзьце мілай, кветак заразкі прынясу. Мне б з вамі... пагаварыць сардэчна!

— Ну, — сказала Арыядна, — мы тут, пані Віёлю, ужо і непатрэбны! Каралеўская нага пара сама міравую і заключыць без нас!..

А «кінааператар» зноўку загаварыў вершам, на Іаланту гледзячы:

— «Три слова, будто три огня, придут к тебе среди бела дня. Придут к тебе порой ночной, огромные, как шар земной. Как будто парус кораблю, три слова: «я тебя люблю». Какие старые слова, а как кружится, а как кружится голова!» — - -

* * *

Нядзельныя ўсяпольскія, гарадскіх улад, выбары... Халодная лістападаўская раніца... Вятруга рве лісце з дрэў, ганяе прахожых па тратуарах, дажджом аблівае, парасоны ломіць, у нішчэнт складае...

— І чаго тут у такую рань, гэткую буру. Можна было б пазней! — казала сабе Арыядна. — Мо гэты цыклон адышоў бы, успакоіўся ў дзень, пад вечар?.. Разарве ж чалавека на кавалкі, спадніцу заўсім здзярэ!..

Яна ўвайшла ў цяплынь галасавальнага пункту. Паглядзела на камісію. Ёй далі спіскі-бюлетэні, мясцовыя гарадскія ўлады выбіраем... Ну — пэўна і тут спыталі — цэлы свет пытае: вы, Анна Герман? А яна яшчэ ў такой жа (як калісь Аня мела падобную) каляровай, у кветкі цудоўныя, хустцы-шаляноўцы!.. Ну — сто працэнтаў — Аня наша дарагая спявачка!.. А колькі гадоў як яе ўжо няма?!.

— Не-не, панове, шкада, але я не Анна! Чаго камянееце, мужчыны?.. Я — Арыядна! Бельская!

Але-але! Дый і я стаўпом стала! У камень ператварылася! Куды яна ўвайшла? Гэта ж — кіно! Во — сядзіць Дзі Капрыё, з'ява красачная! Калі ён не Капрыё і вам гэтакі не падабаецца — то Грэгары Пэк з «Рымскіх канікулаў»!.. Ай, але хто з вас помніць яшчэ той фільм! — цудоўную казку пра пачуццё райскае, чыстае-чысцейшае, любоўнае золата княжны-каралевы з нейкай цудоўнай краіны і рымскага журналіста! — пары эдэмскай: Одры Хепберн і Грэгары Пэка, пры якім, яшчэ не так даўно, хліпаў-плакаў-смяяўся-радаваўся ўвесь свет! Як тады гаварылі і польскі, і рускі, і французскі!!!

Тут, у камісіі — сядзіць гэткі паніч і росту таго, пэкаўскага, і красы мо нават яшчэ большай!!! Цудоўная істота (вось табе і звычайная камісія!), ад бляску якой вочы табе наверх выпаўзаюць!.. Яна і сама недзе чула, Арыядна (у акадэміі?): вочы ў чалавека гэта найдалей высунутая часціна чалавечага мозгу!.. Арыядна падумала: — У мяне — не, які бо тут, наогул, мозг, значыць, калі я — аб бачанага — мычаць толькі магу! Ад віду гэтага архангела». Член камісіі — то камісіі, а дух ён — адкуль? Валасы ў яго чорныя-надчорныя — аж сінія!.. А Іаланта казала, аднойчы, адкуль яна гэта ведае? — што ангельская брацыя, лісце круціць — усе бландзіны!.. А гэты чорт — чарнюсенькі! Як вугаль! А від херувімскі! Відаць і там, у небе, бываюць „wyjątki".

Ну — што тут тварыцца? На вуліцы восень даждзіць, дрэвы ломіць, лісце круціць-ганяе, а мяне тут — вясна «бярэ»!.. Вы гляньце — валасы ў яго якія? — кожнае пасмачка, ба!, волас кожны ў аддзельнасці — кучарашка, абаранчык, завітушачка, круцяляшка, спіралечка, ой-ой-ой!.. Андуляцыя? Не, дзе ж ёсць такая машына на кожны асобны волас-пружынку?..

Прырода тут, значыць, дар Божы на галаве гэтай! Бо ён, напэўна, велікан гэты — з неба! Дзе ж такая краса родзіцца апрача Волі Божай?!. Дый на рукі яго гляньце! — ён з аркестра нябеснага, няйначай, бо пальцы яго — пальцы — пальцы! — на паўметра!.. Ой, Божа ж, а гэта што, правая рука з бінтом!?. Ну, не так ужо ў гіпсе-гліне! — але ўсё ж такі! Куды ён улез? Куды сваю фартэпіянную лапаньку ён усадзіў?! — гэты Рубінштэйн-Падарэўскі-Цымерман-Блехач: слава наша апошняя?!.

Ну — як НЕ загаварыць з «такой» камісіяй?!. Пра руку не спытаць? (бінт? Мне б яго перавязаць!).

— Значыць, вы не Анна Герман (а ўсе яе кропелькі пабралі!)... Арыядна Бельская, вось тут падпішыце! — Яна прачытала яго бэджык — «Каміль Бачыньскі»... Яна спытала: «Дзе ж такія хлопцы пападаюць у аварыю? Што з вамі? Хто вас гэтак?

Старшы дзядзька з камісіі смяецца: — А ён у нас ноччу з Галотай на рынг выходзіў!.. — Ага, — яна, — якраз з музыкальнымі рукамі, ад піяніна!.. Хлопец смяецца!.. — Медык я, на вока бачу, парэзалі; у якую машыну ўсадзілі? Куды вы ўлезлі?!. Ён смяецца...

Арыядна стаяла, гаварыла; за ёю ўжо хвост — чарга пацягнулася; як-бы і не бачыла, што камісійны дзядзька даўно ёй паперы пад нос самы пхае-тыцкае! Гаварыла і ўсё думала: — А дзе ж я яго дагэтуль бачыла?! Дый нядаўна! І твар як-бы са знаёмых? Прагаласавала... Папрашчалася... Выйшла, нейкая неспакойная!.. Ну што за хлопец? Якась ён так — незнаёмы-знаёмы?!. Што ж гэта такое? Трэба высветліць! Ведаю, — гэтак трэба зрабіць?!.

(працяг будзе)

# Дзяўчына з Астрога

Загадкавая постаць польскага кіно 1930-х гадоў. Пісалі пра Лілю (Лідзію) Іванову, папоўну з Астрога: «Асляпляе прыгажосцю і недахопам таленту». Лідзія Іванова — Альма Кар, муза прадзюсара Стэфана Гуляніцкага, была адной з самых загадкавых фігур польскага кіно 1930-х гадоў, пад гэтай загадкавай мянушкай хавалася дачка бацюшкі, якая марыла пра вялікую акцёрскую кар'еру. Пахавана яна ў Кентшыне, а яе маці — у Беластоку на праваслаўных могілках.

Нягледзячы на тое, што кар'ера Альмы Кар працягвалася ўсяго тры гады, ёй удалося некалькі разоў з'явіцца на вокладцы прэстыжнага часопіса „Кіно" і згуляла яна тры галоўныя ролі разам з такімі амантамі, як Эўгеніюш Бодо і Аляксандр Жабчынскі. Пасля 1936 года артыстка знікла са сцэны, а яе пасляваенны лёс гадамі заставаўся невядомым. Аднак дзякуючы апісанням яе сям'і атрымалася рэканструяваць складаную біяграфію загадкавай зоркі.

**Альма Кар: Ці я фотагенічная?**

Лідзія Іванова, якая выкарыстоўвала сцэнічнае імя Альма Кар, нарадзілася 14 лістапада 1903 года, хутчэй за ўсё, у Астрогу на рацэ Гарыні. Правільны год нараджэння мастачкі быў змешчаны ў пашпарце яе маці Вольгі Івановай у рубрыцы „Дзеці". На надмагільным помніку актрысы змешчана 1904 г., а ў сваіх інтэрв'ю сама заяўляла, што яна 1908 года нараджэння. Лідзія, якую называлі Ліля, паходзіла са шляхецкай сям'і і была другім з чатырох дзяцей праваслаўнага святара (у наступныя гады ў дакументах фігуруе ён як «былы расійскі чыноўнік") Мікалая Іванова і Вольгі з Паўлоўскіх. У яе была сястра Марыя на два гады старэйшая (памерла ў маладым узросце), сястра Ніна на шэсць гадоў маладзейшая і брат Юры Уладзіслаў, на трынаццаць гадоў маладзейшы.

Выхаваная ў праваслаўнай кансерватыўнай сям'і, Лідзія атрымала адукацыю ў суворых сценах манастыра ў Астрогу. У 1919 годзе, пасля таго як Польшча атрымала незалежнасць, родны горад Лідзіі апынуўся ў межах Другой Рэчы Паспалітай. Мікалай Іваноў, які раней лічыў сябе рускім, вырашыў прыняць польскае грамадзянства разам з сям'ёй. 1 жніўня 1923 г. у Луцку афіцыйна прызналі яго палякам. Верагодна, аналагічныя дакументы былі выдадзены для яго жонкі і дзяцей. У наступныя гады Іваноў жыў, у прыватнасці, у Наройках на Падляшшы і Песках (Пяскі) у Ваўкавыскім павеце. Хутчэй за ўсё, у другой палове 1920-х гадоў Лідзія пакінула дом сям'і і пераехала ў Варшаву. Неўзабаве яна выйшла замуж, але пра першага яе мужа вядома толькі тое, што ён меў прозвішча Пікарт (Pickart). Пад гэтым прозвішчам актрыса з'явілася ў варшаўскіх адрасных кнігах у 1930-я гады. Паводле інфармацыі сясцёр актрысы, пара развялася, бо муж Лідзіі хацеў мець дзяцей, а яна не хацела.

У канцы 1920-х гадоў Лідзія Пікарт сур'ёзна пачала думаць пра пачатак мастацкай кар'еры. Яе акцёрскім дэбютам стала роля Ванды, сяброўкі Ірэны Парэцкай ў фільме «Жанчына, якая хоча граху» рэжысёра Віктара Бяганскага. Аднак гэта была толькі другапланавая роля, а Лідзія хацела стаць зоркай. Таму, калі ў сакавіку 1930 г. пачаў выдавацца часопіс „Кіно", пані Пікарт вырашыла ўзяць справы ў свае рукі. Яна накіравала ліст з фатаграфіяй у рэдакцыю часопіса, якая з'явілася 25 мая 1930 года. У лісце яна распавяла пра свае ўнутраныя дылемы: «Паважаныя рэдактары! Я ў роспачы! Люстэрка кожны дзень кажа: ты прыгожая! Я чытаю гэта ў вачах мужчын, поўных захаплення, і ў вачах жанчын, поўных рэўнасці. Але ніхто не можа адказаць на маё прынцыповае пытанне: я фотагенічная? Таму што ты можаш быць прыгожым і не быць фотагенічным. Бывае і наадварот. Таму, калі ласка, паглядзіце крытычна і прафесійна, зірніце на прыкладзеную тут фатаграфію і скажыце: Я фотагенічная, ці не? З павагай, П...т.»



■ Альма Кар (на самай справе Лідзія Іваноў-Пікарт) у 1933 г. (фота з Нацыянальнага лічбавага архіва, Ілюстраваны канцэрн, штодзённы кур'ер — архіў ілюстрацый, нумар 1-K-8172) — гістарычны партал Histmag.org



■ Альма Кар і Аляксандр Жабчынскі ў «Паненцы з poste-restante» (фота з Нацыянальнага лічбавага архіва, Ілюстраваны канцэрн, штодзённы кур'ер — архіў ілюстрацый, даведачны нумар 1-K-8173) — гістарычны партал Histmag.org

У адказ рэдактары „Кіно" не толькі выказалі надзею, што зорка-пачаткоўка атрымае цікавасць да рэжысёраў, але і пачалі серыял «Ці мы фотагенічныя?», які ў наступныя гады запусціў шэраг новых мастакоў фільма (у тым ліку Ежы Піхельскага і Рэнату Радаеўскую).

Адзін з самых папулярных рэжысёраў даваеннага кіно — Міхал Вашынскі — неўзабаве адказаў на зварот Лідзіі Пікарт. У яго «Небяспечным рамансе» які паставіў, Лідзія была толькі статысткай, але як у «дзяўчыны за сталом» у яе былі тры буйныя планы. Прадзюсар Вацлаў Мальчэўскі са студыі Vita-Film у сваю чаргу прапанаваў загадкавай прыгажуні з „Кіно" ролю ў фільме «Тры ночы Гурлема», але ў канчатковым выніку ён не быў рэалізаваны. Каб павялічыць шанцы стаць сапраўднай зоркай, пані Пікарт вырашыла паступіць у нядаўна адкрытую танцавальную школу Ірэны Прусіцкай, аўтарытэтнай польскай харэографкі. Па словах журналіста «Навін Кіно», у школе Прусіцкай, яна адзначалася «не толькі сваёй прыгажосцю і стройнай фігурай, але і шчырым талентам і захапленнем працай». Як і іншыя даваенныя мастакі, яна таксама прыняла мудрагелістую мянушку «Альма Кар», генезіс якой да гэтага часу застаецца невядомым. Менавіта ў школе Прусіцкай яе заўважыў рэжысёр Юліюш Гардан, ад якога яна атрымала ангаж «10 працэнт для мяне» з Толяй Манкевічуўнай у галоўнай ролі.

**Нараджэнне Альмы Кар**

Прэм'ера «10% для мяне» адбылася 7 студзеня 1933 года. Хоць Альма Кар толькі сыграла ў ім пацешны эпізод графіні Дзюні, яна звярнула ўвагу багатага прадзюсара фільмаў Стэфана Гуляніцкага, які вырашыў зняць яе ў галоўнай ролі танцоркі Люлю ў фільме «Забаўка» ў рэжысуры вядомага маладога акцёра Міхала Вашынскага. Партнёрам у фільме «Забаўка» быў Эўгеніюш Бодо, што стала для яе вялікім вылучэннем. Фільм пачаў супрацоўніцтва актрысы і Стэфана Гуляніцкага на працягу некалькіх гадоў, стала яна для яго своеасаблівай музай. У мастацкіх колах нават былі плёткі пра іх адносіны. Самі зацікаўленыя бакі падсілкоўвалі гэтыя чуткі, бо ў «Забаўцы» танцорка Люлю спакушае памешчыка з Крэсаў Латашынскага, якога сыграў Гуляніцкі, схаваўшыся пад псеўданімам «Стэфан Гуцкі». Вядома, што прадзюсар меў асаблівую прыхільнасць да Альмы, але, здаецца, яна была больш бацькоўская, чым рамантычная. У Стэфана Гуляніцкага была дачка ва ўзросце яго новай зоркі Галіна, якая таксама была актрысай.

«Забаўка» паступіла ў кінатэатры 9 снежня 1933 года, але ўжо падчас здымкаў кінапрэса пачала пісаць пра Альму Кар. Рэжысёр Міхал Вашынскі ў інтэрв'ю для часопіса «Навіны Кіно» ў снежні 1933 года захапляўся яе акцёрскімі здольнасцямі: «Яна прыносіць з сабой маладосць, прыгажосць, непасрэднасць, натуральнасць і свабоду, якія такія ўжо страчаныя. Іграючы — яна жыве, і менавіта гэта надае ёй столькі абаяльнасці. Фільм ненавідзіць «акцёрскае майстэрства», якое, узмацняючы кожны жэст і кожны мімічны рэфлекс, часта прымушае іграць руцінна, акцёр штучны і непрыемны для вачэй. Альма Кар дагэтуль не заваленa тэатральнасцю, ад якой складана вызваліцца, і таму яна ў фільме мае такую чароўнасць непасрэднасці...».

У тым жа нумары часопіса быў надрукаваны артыкул «Ідэальны ўзор фільмавай артысткі», выхваляючы нядаўна выяўленую зорку. У ёй, між іншым, гаворыцца, што ў актрысы «фільмавая краса і фотагенічнасць», а яе славутая фігура дапаўняецца «доўгімі расавымі нагамі Дыяны» і «гнуткім крокам танцоркі». Іншымі словамі, перад маладой мастачкай адкрывалася вялікая кар'ера.

Сярод крытыкаў Альма, аднак, выклікала супярэчлівыя пачуцці. Пазітыўныя меркаванні наконт гэтага апублікавала «Кіно». Галоўны рэдактар часопіса Леон Брун напісаў пра яе: «Самая вялікая цікаўнасць, безумоўна, засяроджваецца вакол спадарыні Альмы Кар, якая дэбютуе ў галоўнай ролі. У Альмы Кар ёсць штосьці са статуі, вельмі «рэпрэзентацыйная» краса, вельмі эфектная прыгажосць, таму мы яе ахвотна ўбачым у наступных, больш каштоўных творах. У яе ёсць талент — пра яго сведчаць спарадычныя апладысменты пасля добрага дыялогу з Ежы Маррам».

Рэцэнзентка «Плюшча» Гермінія Наглерова пракаментавала яе ролю больш жорстка: «Пры правільным вядзенні, магчыма, ад яе можна было б атрымаць шмат. Тут — як гэта звычайна бывае ў нашых фільмах — яна спраўляецца так, як дае рады, і таму, што можа зрабіць мала, адзін раз выходзіць ёй лепш, другі раз горш». Значна крытычней да яе акцёрскага мастацтва ў «Забаўцы» стаў «Піён», журналістка якога яўна заявіла, што «Альма Кар асляпляе прыгажосцю бландзінкі з выдатнай фігурай і сенсацыйнай адсутнасцю таленту». Гуляніцкі, аднак, працягваў прасоўваць сваю зорку і пад пільным вокам прафесіяналаў вырашыў навучыць яе акцёрскаму майстэрству. Сваімі намаганнямі Альма трапіла, між іншым, на сцэнічныя занятки з самім майстрам акцёрскага майстэрства Канстанцінам Станіслаўскім.

**Небяспечная і загадкавая краса**

Пасля «Забаўкі» Альма Кар сыграла галоўныя ролі ў фільмах «Паненка z poste restante" з 1935 года і «Сакрэт міс Брынкс» з 1936 — рэжысёрамі першага былі Міхал Вашынскі і Ян Новіна-Пшыбыльскі, другога — зяць Гуляніцкага, Базылі Сікевіч. Цікава, што да «Забаўкі», і да «Сакрэту міс Брынкс» кіраваў здымачнай брыгадай Мікалай Іваноў, але было гэта, здаецца, толькі супадзенне імён з бацькам Альмы.

Асабліва займальнай для актрысы стала праца на здымачнай пляцоўцы «Паненкі з poste restante", бо фільм здымаўся сярод іншых у Вене, Сараеве і Дуброўніку. Аднак паміж карцінамі здарыўся непрыемны інцыдэнт — акцёр Міхал Зніч падчас адпачынку на Адрыятыцы заплыў занадта далёка ад берага і пачаў тануць. На дапамогу прыйшлі Альма Кар і Аляксандр Жабчынскі. «Першая да Зніча прыйшла Альма Кар, якая здолела некалькі хвілін утрымаць яго на плаву. Аднак сітуацыя стала трагічнай, бо Альма Кар таксама пачала тануць. На шчасце, да танучых артыстаў даплылі ратаўнікі і выцягнулі іх з вады», — так апісалі сітуацыю «Навіны Кіно», дадаўшы, што пра подзвіг польскіх акцёраў пісалі югаслаўскія газеты.

У інтэрв'ю журналістцы «Кіно» Альма Кар адзначыла свае самыя вялікія захапленні, акрамя акцёрскага майстэрства і танцаў, гэта значыць верхавую язду, тэніс і плаванне. Іншым разам у «Кіно» з'явілася фота Альмы Кар у баксёрскіх пальчатках з подпісам: «Альма Кар, чароўная гераіня новага польскага фільма «Паненка з poste restante» — вялікая аматарка спорту. Яна нават займаецца боксам, і яе «серпавы» ўдар правай рукой проста ашаламляе. Небяспечная краса!»

чытайце ☞ 11

1 ☞ працяг

# „Басовішча”

**— Можа нехта не вытрымаў гэтых змен, аб якіх гаворыце, бо ў Вашым фільме ёсць адкрытае пытанне з якім застаецца глядач. З аднаго боку Лявон Тарасэвіч і выканаўцы з Беларусі гавораць, што „Басовішча” павінны рабіць прафесіяналы, а Барбара Пякарская ці Ілона Карпюк упэўнены, што добра гэта рабіла Беларускае аб’яднанне студэнтаў. А мяне цікавіць Ваша меркаванне?**

— Такая дыскусія працягвалася шмат гадоў, гэта не толькі з’ява апошняга „Басовішча”. Я сказаў бы, што гэта такая галоўная дыскусія, якая вялася пры нагодзе арганізацыі кожнага выпуску фестывалю. У кожнага свае меркаванні, у кожнага свае рацыі. Прафесіяналы, якія прыязджаюць з Беларусі, хацелі б выступаць на прафесіянальным фестывалі, каб была прафесіянальная апаратура, усё, што вакол сцэны, прафесіянальныя ганарары і г.д. Аднак трэба памятаць, што само „Басовішча” ўзнікла з унутранай патрэбы майго пакалення — зараз людзей, якім каля пяцідзесяці гадоў, якія выйшлі з вёсак і шукалі альтэрнатывы для вясковай народнай культуры, якая жыла тады яшчэ на вёсцы. Яна працягвалася ў выглядзе працы народных калектываў у Бельску, Беластоку ці Гайнаўцы. Для маіх сяброў, якія пачалі вучыцца ва ўніверсітэтах у Беластоку, Варшаве ці Любліне, гэтага было мала. Таму менавіта ўзнік той фестываль як альтэрнатыва для народнай культуры. А я забыўся, на што меў адказаць (*смех*).

**— Ці Вы больш прыхільныя да канцэпцыі Лявона Тарасэвіча ці БАСу?**

— Задача дакументаліста — паказаць гісторыю, якой яна была на самой справе. Я ў фільме не ацэньваю, а проста аддаю мікрафон людзям, якія былі ангажаваныя ў фестываль і яны выказваюць свае думкі. Гэта было б непрафесіянальна, калі я б ставіўся па адным ці па другім баку гэтай дыскусіі. Дакументальны фільм гэта не тая прапаганда, якую зараз наглядаем перш за ўсё ў тэлебачанні ў Беларусі, але і ў Польшчы. Я ведаю, што калі ўзнікае нешта аб’ектыўнае, яно менавіта ўніверсальнае і будзе глядзецца сёння, праз месяц ці праз сто гадоў.

**— Ваш фільм падтрымлівае яшчэ адну традыцыю „Басовішча” — рэкламны плакат, афармлены нашым падляшскім мастаком Міраславам Здрайкоўскім, так як ранейшыя плакаты фестывалю афармляліся мастакамі з Польшчы. Гэта таксама было Вамі спланавана?**

— Справа ў тым, што „Басовішча” гэта не быў толькі музычны фестываль і я стараўся гэта паказаць у фільме. „Басовішча” было культурнай з’явай, якая ахоплівала, вядома, перш за ўсё музыку. Усё-такі былі фестывалі „Басовішча”, калі паказвалася дакументальнае кіно, калі былі мастацкія сустрэчы, калі былі пленэры, у час якіх людзі нешта малявалі, пісалі. Мне хацелася паказаць бліжэй тую культурную з’яву ў выглядзе не толькі музычнага фестывалю, але проста мастацкага фестывалю. Я — традыцыяналіст. Калі робіш фільм год ці два гады, варта зрабіць шырэйшы фон фільма, каб гэта не была толькі стужка, але таксама плакат, *trailer*, прамоцыя і г.д. Каб фільм не застаўся проста на паліцы ў тэлебачанні, але каб людзі мелі магчымасць яго паглядзець. Гэта ўжо пяты фільм, для якога ўзнік плакат — гэта таксама культура, культурная з’ява, якая застаецца ў гісторыі.

**— Вы часта працуеце паралельна. Ходзяць чуткі, што Ваш чарговы фільм будзе прысвечаны беларусам Беласточчыны, якія ў 1944-1947 гадах выехалі пад уплывам польскага падполля і прапаганды польскіх і беларускіх агітатараў. Можаце ўжо нешта сказаць пра новую прадукцыю?**

— Гэта адна з тэм, над якой я працую. Ці з гэтага ўзнікне фільм? Цяжка мне сказаць. Ёсць ужо пэўныя напрацоўкі, прачытаныя тэксты, кніжкі, кантакты... Усё-такі працэс стварэння такога гістарычнага фільма, дзе трэба многа чытаць, шукаць многіх кантактаў у людзей вельмі доўгі. Трэба знайсці яшчэ добрага спонсара, які захоча прафінансаваць такі праект, бо дакументальнае кіно гэта дарагая справа і сам гэтага не зробіш. Патрэбны людзі, апаратура, а яна ўсё больш сучасная і дарагая, тэхналогіі — гэта складаны працэс. Я маю шчасце, што працую на Белсаце, дзе час ад часу маю магчымасць такія вялікія праекты, улічваючы іх бюджэты, рэалізаваць. Ці атрымаецца гэты фільм, пабачым. Ёсць яшчэ іншыя тэмы, якімі займаюся, пра якія пакуль што не хачу гаварыць.

**— Тэма пасляваеннай дэпартацыі, здаецца, мала даследаваная і наогул мала хто ёю займаўся?**

Малавядомая і мала хто пра гэта пісаў. На шчасце яшчэ ёсць жывыя людзі — сведкі гісторыі, перш за ўсё ў Беларусі. Гэта ўжо другое, або трэцяе пакаленне выхадцаў з Падляшша, якіх было 36 тысяч. Гэта вельмі складаныя, цікавыя гісторыі вартыя зафіксавання.

**— Завяршаючы размову: маеце ўжо планы на першыя выходныя пасля Пятроўкі?**

— Так, бо я езджу ў сваю вёску, у Кашалі, і столькі ў мяне планаў, што не ведаю, колькі спатрэбіцца гадоў, каб іх рэалізаваць. Зараз трэба перакрыць хлеў і шукаю майстра, які тым зоймецца. Я магу толькі быць яго памочнікам, бо ўсё-такі пры такой рабоце больш патрэбныя інжынерскія таленты.

**— Тады хай здзяйсняецца тое, што Вы задумалі! Дзякую за размову.**

Уршуля ШУБЗДА



Бягучы год ужо ўвайшоў у гісторыю сучаснай беларускай дзяржавы як год яскравай барацьбы дабра са злом. Імкненне людзей жыць у краіне, дзе пануе закон, павага да чалавека і яго правоў, змагаецца са старым, хамскім стаўленнем да беларусаў як да лапцюжнікаў-небарак, якія не здольныя не толькі самастойна вырашаць свой лёс, але нават і не маюць права голасу, не маюць права выказаць сваё стаўленне да таго, што адбываецца вакол іх.

Напружанасць у палітычным і не толькі палітычным жыцці Беларусі актыўна назапашвалася цягам апошняга дзесяцігоддзя і яскрава праявілася сёлета. І гэтае праяўленне наўпрост звязана з намечанымі на жнівень так званымі прэзідэнцкімі выбарамі. „Так званымі”, бо цягам чвэрці стагоддзя выбары ў іх нармальным разуменні ў Беларусі адсутнічаюць. Ёсць электаральныя кампаніі з загадзя вядомым вынікам, дзе для апанентаў рэжыму месца няма. Тым не менш дзеянні нязменнага прэзідэнта Лукашэнкі, які ўверыўшы ва ўласную бязгрэшнасць, адмаўляў каранавірус і смерці ад яго, пагаршэнне эканамічнай сітуацыі і новыя наступы на правы чалавека, прывялі да таго, што яго ўзненавідзелі людзі. А ён беларускіх людзей узненавідзеў ужо даўно, яшчэ ў 1990-я гады, калі заявіў, што на беларускай мове нельга сказаць нічога разумнага, а некалькі гадоў таму зняважальна назваў іх „народцам”.

І вось на палітычным небасхіле Беларусі з’явілася некалькі яркіх асоб. Адна з іх — Віктар Бабарыка, які сваёй інтэлігентнасцю, разуменнем неабходнасці прагрэсу ва ўсіх сферах беларускага жыцця адразу заваяваў сімпатыі беларусаў. Больш таго, ён паказаў, што беларуская мова, на якой цяпер мала хто ў Беларусі размаўляе, таксама як і народ знаходзіцца ў прыгнечаным стане. І вельмі хутка пасля заявы Бабарыкі пра жаданне ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах на яго сайце **https://babariko.by** з’явілася беларуская версія.

І беларуская, і руская версіі сайта прэтэндэнта ў беларускія прэзідэнты выглядаюць вельмі прывабна і адпавядаюць адна адной, то-бок, няма такога, што нейкія навіны па-руску ёсць, а па-беларуску іх яшчэ няма. На галоўнай старонцы месціцца вялікі партрэт прэтэндэнта і колькасць сабраных, правераных і пададзеных у выбарчыя камісіі подпісаў за яго вылучэнне. Дарэчы, менавіта Віктар Бабарыка паставіў своеасаблівы рэкорд па колькасці гэтых подпісаў, якую ніхто раней не збіраў, акрамя, зразумела, Лукашэнкі, які робіць гэта, выкарыстоўваючы адміністрацыйны рэсурс.

Пра тое, хто такі Віктар Бабарыка, можна даведацца, зазірнуўшы ў рубрыку „Біяграфія”. Але там не толькі біяграфічныя звесткі пра колішняга старшыню праўлення „Белгазпрамбанка”, але і яго прынцыпы ў палітыцы. Нягледзячы на тое, што Бабарыка працаваў у банку, які ўзнік за расійскія грошы, ён перш-наперш падкрэслівае, што „незалежнасць Беларусі з’яўляецца безумоўнай каштоўнасцю і не можа выступаць прадметам гандлю”. Акрамя таго, прэтэндэнт выступае за вяртанне той Канстытуцыі Беларусі, якая абмяжоўвала колькасць прэзідэнцкіх кадэнцый двума тэрмінамі.

Зразумела, што інтэлігентны і адукаваны чалавек, які стаў аб’ектам сімпатый мноства беларусаў, выклікае лютую зайздрасць хамаватага правіцеля, зацікаўленага выключна ў захаванні сваёй неабмежаванай улады. Вынік — фальсіфікаваная крымінальная справа супраць Віктара Бабарыкі, а ён кінуты за краты.

Аляксандр ЯКІМЮК



## Дата з Календара

# 140 гадоў з дня нараджэння Івана Краскоўскага

Беларускі і ўкраінскі грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, педагог Іван Краскоўскі нарадзіўся 24 чэрвеня 1880 г. у вёсцы Дубічы-Царкоўныя Бельскага павета (тады Гарадзенская губерня). Яго бацька Ігнат Краскоўскі быў святаром.

Іван Краскоўскі скончыў гімназію ў Вільні. У 1903-1905 гг. навучаўся на гісторыка-філалагічным факультэце Варшаўскага ўніверсітэта. Удзельнічаў у нелегальным студэнцкім гуртку, за што быў выключаны з універсітэта. Пасля пераехаў у Пецярбург. У горадзе на Няве працягнуў навучанне ў тамтэйшым універсітэце па спецыяльнасці гісторыка-эканаміста. Пасля сканчэння ўніверсітэта ў 1907 г. пераехаў у Вільню, дзе да 1914 г. выкладаў у гімназіях, удзельнічаў у беларускім грамадскім руху. Быў сябрам Беларускага настаўніцкага саюза.

Улетку 1915 г. Іван Краскоўскі пераехаў у Кіеў, дзе працаваў у Зямельным саюзе. Быў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. У верасні 1917 г. на з’ездзе народаў у Кіеве прадстаўляў беларускія нацыянальныя арганізацыі. Часовым украінскім урадам быў прызначаны камісарам Тарнопальскай губерні. 18 снежня 1917 г. яго арыштавалі бальшавікі, але потым адпусцілі. У 1918 г. ўвайшоў у склад урада Украінскай Народнай Рэспублікі, быў амбасадарам УНР на Каўказе, у Грузіі. Супрацоўнічаў з кубанскімі ўрадавымі ўстановамі 1917-1920 гг. у кірунку аб’яднання з Украінай.

У час працы ва ўкраінскім урадзе Краскоўскі таксама выступаў кансультантам дэлегацыі Беларускай Народнай Рэспублікі на перамовах з урадам Украіны. 10 кастрычніка 1918 г. быў таксама ўпаўнаважаны Народным сакратарыятам БНР для вядзення дыпламатычных перамоў з урадамі Расеі і Украіны пра афіцыйнае прызнанне незалежнасці Беларусі. У 1920 г. Краскоўскі — старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. З-за ўзмоцненай агітацыі супраць выбараў у Віленскі Сойм уночы з 19 на 20 студзеня 1922 г. арыштаваны польскімі ўладамі ў ліку іншых трыццаці трох беларускіх і літоўскіх актывістаў. Знаходзіўся ў вязніцы. Дзякуючы ціску Літвы ў лютым 1922 г. перададзены літоўскаму боку. З 1922 г. працаваў дырэктарам Дзвінскай беларускай гімназіі ў Латвіі.

З 1925 г. Краскоўскі жыў у Мінску. Працаваў у Беларускім дзяржаўным універсітэце, Інстытуце беларускай культуры, Акадэміі Навук БССР, быў сябрам прэзідыума Дзяржплана БССР. У 1930 г. пераведзены ў Маскву на працу ў Дзяржплан СССР. Арыштаваны 8 ліпеня 1930 г. органамі ОГПУ СССР па справе так званага „Саюза вызвалення Беларусі”. У 1931 г. высланы на 5 гадоў у Самару, дзе працаваў у краявым планавым кіраванні. Паўторна арыштаваны НКВД 4 лістапада 1937 г., аднак 19 сакавіка 1940 г. асаблівай нарадай пры НКВД СССР вызвалены з-пад следства. У далейшым да выхаду на пенсію ў 1949 г. працаваў настаўнікам у населеных пунктах Куйбышаўскай (цяпер Самарскай) вобласці Расеі.

У 1953 г. Іван Краскоўскі выехаў да дачкі ў Чэхаславаччыну. Дачка працавала ў музеі ў славацкай Браціславе, была вядомым нумізматам. Памёр Краскоўскі 23 жніўня 1955 г. у Браціславе, пахаваны на могілках Славіч’е ўдоліе. Афіцыйна па першым прысудзе рэабілітаваны ў траўні 1962 г., па другім — у чэрвені 1988 г.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

9 ☞ працяг

# Альма Кар

Нягледзячы на спрэчныя акцёрскія здольнасці, Альма змагла правільна стварыць свой вобраз, у якім ёй, напэўна, вельмі дапамог прадзюсар Гуляніцкі. У сваю чаргу «Сакрэт міс Брынкс» стала першай крымінальнай камедыяй, рэалізаванай у Польшчы. Альма Кар сыграла актрысу Ванду Тарскую, падзараваную ў забойстве амерыканкі Кэці Брынкс. Журналістка «Проста з моста» не пашкадавала слоў жорсткай крытыкі. Параўноўваючы Альму з Ленай Жаліхоўскай, якая грае Кэці Брынкс, яна напісала: «Лена Жаліхоўская, таленавітая і разумная мастачка, нягледзячы на тое, што закацыўшы вочы, нікога не пераконвае ў сваёй хваробе і, трэба прызнаць, значна больш спагадлівая, чым тоўстая і выглядаючая на трыццаць... і пару гадоў Альма Кар». Хоць у 1936 годзе ў рамках прасоўвання фільма Альма двойчы з'явілася на вокладцы «Кіно» (раней яе здымкі ўпрыгожвалі вокладкі часопіса ў 1934 і 1935 гадах), меркаванне крытыкаў прадказвала, што яе пяць хвілін павольна заканчваецца. З'явіліся маладзейшыя актрысы, а Гуляніцкі прыхварэў і кінуў кіно.

У лютым 1937 года Альма Кар таксама дала інтэрв'ю журналістцы часопіса «Кіно для ўсіх і тэатр», у якім распавяла пра свае ўражанні ад некалькіх месяцаў знаходжання ў Югаславіі і Вене, падзяліўшыся ўражаннямі ад Далмацыі. У сталіцы Аўстрыі яна скарысталася магчымасцю трэніравацца і даведацца пра мастацкае асяроддзе. У канцы размовы яна адзначыла, што працуе над сабой, каб хутчэй вярнуцца да фільма. «Гэта паведамленне, несумненна, парадуе натоўпы прыхільнікаў Альмы Кар, сэрца якіх заваявала прыгажосць, талент і сціпласць», — падвёў рэдактар Б. Т. Пасля «Сакрэту міс Брынкс» Альма Кар больш не з'явілася на экране. Месяцамі яна зноў стала Лідзіяй Пікарт, жыхаркай варшаўскай камяніцы па вуліцы Свентакшыскай.

**Спадарыня Шымановіч**

У 1938 ці 1939 годзе Лідзія Пікарт выйшла замуж другі раз. Адам Шымановіч стаў яе выбраннікам, да вайны кіраўнік падатковай палаты ў Познані, а пасля вайны супрацоўнік Міністэрства фінансаў у Варшаве. Муж Лідзіі паходзіў з сям'і паланізаваных армян, быў сынам паважанага гістолага і эмбрыёлага Уладзіслава Шымановіча і стрыечным братам таленавітага піяніста Збігнева



■ Альма Кар і Уладзіслаў Герц у «Забаўцы» (фота з Нацыянальнага лічбавага архіва, Ілюстраваны канцэрн, штодзённы кур'ер — Ілюстрацыйны архіў, даведачны нумар 1-К-12379-2) — гістарычны партал Histmag.org

Шымановіча (8-га лаўрэата прэміі на IV Міжнародным конкурсе фартэпіяна імя Фрыдэрыка Шапэна ў 1949 годзе). Муж і жонка жылі ў Львове, дзе прыбылі да пачатку Другой сусветнай вайны. Потым муж і жонка паспешліва спакавалі каштоўныя рэчы (у іх было шмат скульптур і карцін дома) і селі ў цягнік да Лодзі, але падчас падарожжа вагон, у якім яны размяшчалі каштоўныя рэчы, згубіўся. У Лодзі Шымановічы перажылі цяжкія гады вайны, а пасля вайны жылі разам у Варшаве. Хоць у іх не было дзяцей, яны былі вельмі закаханыя адзін у аднаго. Ёсць нават фотаздымак маладога Адама Шымановіча з прысвячэннем: «Мая любімая жонка. Адам».

Былая актрыса добра зарэкамендавала сябе ў ролі хатняй гаспадыні, а вышыўка стала яе любімым заняткам. Вярнуцца да фільма ўжо не атрымалася, бо Стэфан Гуляніцкі, які прасоўваў яе, памёр 4 верасня 1940 г. у Варшаве. Акрамя таго, камуністычныя ўлады неахвотна ўключалі ў фільмы міжваенных артыстаў. Сама Лідзія неахвотна вярталася да фільмавага мінулага і пазбягала наладжваць больш цесныя адносіны з суседзямі. Пасля яе кар'еры засталіся толькі шматлікія фотаздымкі ў шуфлядзе. Яна перапісвалася з сям'ёй, якая пражывала ў Гіжыцку. Пасля вайны яе сястра Ніна пераехала туды з Гродна, а яе маці Вольга падчас вайны аўдавела, а потым таксама брат Уладзіслаў Іваноўскі (змяніў прозвішча з Юры Іваноў) з жонкай і дзецьмі, якія раней жылі ў Барлінку каля Шчэціна. Маці Лідзіі памерла ў канцы 1940-х гадоў і пахавана на праваслаўных могілках у Беластоку. У наступныя гады сястра Лідзіі Ніна Стэфановіч пераехала ў Кентшын.

Адам Шымановіч памёр 4 ліпеня 1979 г. у Варшаве ва ўзросце 75 гадоў. Пахаваны ён на Паўночных гарадскіх могілках у Варшаве. Лідзія вельмі перажыла смерць каханага мужа, з якім яна пражыла разам амаль сорак гадоў. Муж, вядомы сваёй дабрынёй, часта змякчаў яе няпросты характар. Пасля яго адыходу Лідзія не магла знайсці сябе ў новай сітуацыі, і яна павольна пачала губляць сілы. Яе малодшая сястра Ніна працягнула руку дапамогі, і яна пераехала з Кентшына ў Варшаву, каб даглядаць сястру.

У пачатку 1992 года Лідзія зламала сцягно і трапіла ў бальніцу. Пасля аварыі яна больш не вярнулася ў поўную форму. Сям'я вырашыла адправіць яе ў дом састарэлых у Станіслаове Першым. Там Лідзія Шымановіч з Івановых primo voto Pickart памерла 13 ліпеня 1992 года. Дзякуючы намаганням малодшай сястры Ніны, цела даваеннай актрысы было адвезена ў Кентшын і пахавана там на мясцовых могілках пасля імшы па праваслаўным абрадзе. Пасля смерці Лідзіі Шымановіч-Альмы Кар Ніна Стэфановіч перадала апошнія памяткі Музею кінематаграфіі ў Лодзі.

❖ (лук)

# Адгаданка

1. літоўскі горад каля крыніц рэчкі Дубісы, 2. каштарыс расходаў і даходаў дзяржавы, прадпрыемства, 3. мангольская пустыня, 4. дэкаратыўны куст з белымі пахучымі кветкамі (*Jasminum*), 5. памятная ўзнагарода прызёру, 6. карпацкая рака ў Ужгарадзе, 7. вядзьмар, 8. Дональд, прэзідэнт ЗША, 9. расліна завершаная макаўкай, 10. старажытны горад ў Узбекістане, 11. вёска.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — афарызм.

(ш)

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | | | 2 | | |
| | | | 3 | | | | | | | |
| | | 4 | 5 | | | 6 | | 7 | | |
| | | 8 | | | | | | | | |
| | | 9 | | 10 | | | | | | 11 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 22 нумара**

Доўг, карэта, нос, люты, баян, чарада, мыла, возера, бор, ахвяра, ляўша, хлеб, пушча, Люблін, кума.

Рашэнне: **Любоў гэта часовая хвароба лечаная шлюбам**.

# 28.06 — 04.07

**(22.03. — 20.04.)** 28-30.06. нагоды для ўзмацнення прафесійнай пазіцыі. Больш сілы і баявітасці. Падзелішся сваімі таямніцамі, рассакрэціш інтрыгі. Не пазычай грошай на вялікія пакупкі. У ліпені будзеш сур'ёзна думаць пра сувязі. Папытайся ў знаёмых пра дадатковы занятак. Пацікаўся натуральнай медыцынай.
**(21.04. — 21.05.)** 29-30.06. здзяйсненне некаторых мар і планаў можа аказацца па-дзіцячаму простае. Пасля зрываў абавязкова добра адпачні на сонцы і над вадой. Крыху цяжка дагаварыцца. Добры час на прызнанні на пачатку ліпеня. На файныя сустрэчы не спазняйся і не выходзь з іх зарана.
**(22.05. — 22.06.)** 27-30.06. зоркі спрыяюць тваййму кампанейскаму жыццю. 30.06. новыя ідэі і рэвалюцыйныя праекты знойдуць умовы для рэалізацыі. Маеш добры нюх да інтарэсаў — у канцы чэрвеня. Сапраўдны пералом у бізнесовых справах. Гатовы да самаахвярнасці, пераможаш, толькі адкінь непатрэбшчыну. Трэніруй памаленьку.
**(23.06. — 23.07.)** Благі настрой, але каротка. Хтось можа спрабаваць увесці цябе ў зман. Незалежна ад ходу падзей, не адступай ад сваіх прынцыпаў. На працы будзь метадычны і цярплівы. Планаваная паездка можа не адбыцца ці не ўдасца. Прыйдуць вялікія вітальныя сілы. Можа, сядзь на дыету веге?
**(24.07. — 23.08.)** 27-30.06. тваю спеласць і цярплівасць да хатніх пратэстуе Марс. Адчуеш, быццам у цябе ўступіла новае жыццё. Пільнуйся ад ашуканцаў і асоб, якія схочуць папсаваць тваю рэпутацыю. Карова, якая многа мычыць, мала малака дае; сапраўды вялікія людзі — вельмі сціплыя. Пільнуй сваё здароўе — вірусы не спяць!
**(24.08. — 23.09.)** 29-30.06. секстыль Меркурыя з Уранам падсунуць табе задуму, якая папхне ў перад тваю кар'еру! Добрае здароўе, але перш за ўсё пільнуй свой страўнік. Сваёй сілай, адвагай і рашучасцю задзівіш нават самую сябе. Ды калі закахаешся, твой самакантроль, памяркоўнасць і спакой лопнуць як мыльны пузыр, а гіпнатычны ўплыў каханай асобы можа перакуліць тваё жыццё. Старэйшыя Дзевы могуць сустрэць сваю даўнюю любоў.
**(24.09. — 23.10.)** 29-30.06. нагоды да таго, каб выйсці па-за схемы, да новых выклікаў. Найлепшы час на негацыяцыі на працы. Трымай у руках павадкі на рабоце — можаш шмат здабыць, але і нямала страціць; ліпень можа быць пераломным для тваёй фірмы. Перамогі сяброў заахвоцяць і цябе да таго, каб і ты адгроб свае прысыпаныя мары і планы. Варта схадзіць на медабследаванне.
**(24.10. — 22.11.)** 27-30.06. зможаш фарсіраваць кожны план. У каханні рызыкоўна і горача. На рабоце будзь гнуткім. Найбольшыя поспехі на працы ў Скарпіёнаў з III дэкады. Асабліва 29-30.06. добры час на экзамены, набыванне ведаў і трапныя высновы. Старайся не сябраваць з выпадковымі людзьмі, асабліва сустрэтымі ў дзіўных выпадках ці месцах. На працы ці ў школе не насі нос высока, але і не балбачы па-панібрацку.
**(23.11. — 22.12.)** Не станавіся працаголікам, учуўшы пах грошай! Непатрэбныя сумненні, бо большасць тваіх апасак — толькі ўяўныя. У чэрвені ўзмоцніш сваю пазіцыю, у ліпені хопіш вецер у ветразі. Хоць у першым тыдні ліпеня адчуеш сябе адсунутым на бакавыя пуці або будзе хтосьці, хто будзе адкрыта выказвацца блага аб тваіх кампетэнцыях. Змяні імідж — памаладзееш.
**(23.12. — 20.01.)** 27-30.06. даб'ешся чагосьці незвычайнага і вялікага. Дагаворышся ў важных хатніх справах. Умела спалучыш прыемнае з карысным. Нават калі крыху размахнешся з выдаваннем грошай, з торбамі не пойдзеш. Насі талісман з оніксу ці халцэдону. Адкрыеш новыя шанцы, увядзеш у жыццё змены. У першыя дні ліпеня шмат зробіш, засяродзіўшыся; не страць з вачэй важнага. Добра высыпайся, старайся спаць у поўнай цемры.
**(21.01. — 19.02.)** Удадуцца судовыя справы і юрыдычныя спрэчкі, будзеш мець моцныя аргументы. Вадалей без занятку мае шанц знайсці працу, ды прыдадуцца рэкамендацыі. Сканцэнтруйся на здароўі. Грунтоўны парадак прыдасца дома; выкінь непатрэбшчыну, назбіраную гадамі, ачысць плынь энергіі ў хаце. Змяні нездаровы спосаб жыцця, дыхай свядома, пацікаўся ёгай.
**(20.02. — 21.03.)** Пашчасціцца табе ва ўсім, бо зоркі знясуць дзеянне некалькіх тваіх неабдуманых рашэнняў. Дакажаш, то можаш шмат і трэба з табою лічыцца. Рыбы з пералому лютага і сакавіка адновяць старыя знаёмствы і хтось, даўно забыты, можа нанова стаць вельмі блізкім. У бізнесе не стаў усяго на адну карту! Адчыні сэрца на каханне. У маёмасным плане магчымыя здабыткі. Вернецца табе раўнавага і ззянне ў вачах!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# Райск,

## справядлівасць і памяць

«Пацыфікацыя — гэта слова з прыгожых вытокаў. З лацінскага *pax* — мір, выводзіцца *pacificatio* — прымірыць. У колішняй Рэчы Паспалітай пасля рокашаў ці двайных элекцый склікалі пацыфікацыйныя сеймы дзеля прымірэння і прытушэння напружанняў. З ходам часу *pacificatio*, як і шмат іншых слоў, адарвалася ад свайго кораня. У сучасных слоўніках суправаджаюць яго выключна значэнні насілле, брутальнасць, тэрор, знішчэнне, а абазначае яно сілавое здушэнне бунту, забастоўкі, маніфестацыі або збройныя карніцкія экспедыцыі, асабліва на акупаваных тэрыторыях. Такія пацыфікацыі суправаджае яшчэ адно слова — смерць», — так напісала Дарота Высоцкая ва ўводным раздзеле толькі што выдадзенай кнігі „Zamordowane wsie”.

Кнігу выдаў Фонд імя Канстанціна Астрожскага. У ёй апісаны найбольш вядомыя пацыфікацыі, здзейсненыя гітлераўцамі ў г.зв. Bezirk Bialystok. Гэтая спецыяльная акруга, якая ахоплівала прыблізна тэрыторыю даваеннага Беластоцкага ваяводства. У ліку суаўтараў кнігі журналісты штомесячніка „Przegląd Prawosławny” Дарота Высоцкая, Анна Радзюкевіч, Міхал Боўтрык, Галіна Матэйчук, Андрэй Вашкевіч. Нашым чытачам вядомы злачынствы, здзейсненыя гітлераўцамі ў Слохах-Аннапольскіх, Лазнях, Папоўцы, Райску. Апрача названых мясцовасцей у час Другой сусветнай вайны пацярпелі таксама мясцовасці ў заходняй частцы нашага ваяводства: Красова-Чэнсткі, Гжэнды, Рошкі-Водзькі, Яблонь-Добкі ды іншыя. Ахвярамі гітлераўскіх пацыфікацый сталі таксама мясцовасці міжваеннага Беластоцкага ваяводства, якія пасля вайны апынуліся ў межах Беларусі: Шаўлічы, Княжаводцы, Зінякі. Гэтыя мясцовасці аддалі ў час вайны дзясяткі і сотні нявінных ахвяр. І шмат іншых мясцовасцей — расстраляных, выселеных...

16 чэрвеня 1942 года гітлераўцы расстралялі 149 жыхароў Райска ў парадку калектыўнай адказнасці за здзейснены недалёка вёскі напад на нямецкі патруль. З кожнага дома дарослы мужчына, а калі не быў прысутны, то адна асоба з сям'і. 149 чалавек спачылі ў брацкай магіле пры вясковай загуменнай дарозе. Апошніх жыхароў вёскі разагналі па шырокім наваколлі, шмат іх трапіла на прымусовыя работы ў Германію. Усе будынкі, разам з царквой, былі знесены, вёска была разбурана, нават быў вырваны брук з вуліцы — Райск меў сцэзнуць назаўсёды...

Аднак акупанту не суджана было доўга панаваць; два гады пазней быў ён прагнаны ў сваё логава. Штогадова ў гадавіну раенскай трагедыі ў мясцовай царкве, якая ў пасляваенныя гады была прывезена з пацярпеўшага падобную трагедыю Патурына за Замосцем, служыцца памятнае богаслужэнне. Збіраюцца тады жыхары і выхадцы з Райска. Сёлета было іх пад сотку. Пасля літургіі ў царкве ідзе шэсце на месца брацкага спачыну раян, там правіцца паніхіда.

Кароткія афіцыйныя прамовы сказалі сёлета раенскі настаяцель а. Яраслаў Годун, бельская войт Раіса Раецкая, пасол Сейма Яўген Чыквін, а рэфлексіўны ўспамін — Яўгенія Шумская, мясцовая жыхарка, тады двухгадовая дзяўчынка, вынесеная на мацярынскіх руках, якая носіць у сабе ўсю памяць пра трагедыю і яе наступствы. Апошнімі гадамі прысутнічала ў Райску і пастар з Нямеччыны Барбара Філер, каючыся за здзейсненыя еймымі землякамі злачынствы. Сёлета не магла яна прысутнічаць па сямейных прычынах.

Гітлераўскі тэрор накіраваны быў не толькі супраць жыдоў; нацысты ў далейшай перспектыве нацэльваліся таксама і на іншыя народы. Вось з 1 жніўня 1941 года ачоліў Беластоцкую акругу Эрых Кох, які неўзабаве стаў таксама рэйхскамісарам Украіны. У красавіку 1942 года





■ Анна Радзюкевіч, Яўгенія Шумская, Дарота Высоцкая

Эрых Кох выдае загад: „Цяжкія правіны палякаў і жыдоў ды іншых членаў ненямецкай нацыянальнасці здзейсненыя на шкоду немцаў ды іншыя правіны тых нацыянальных груп разглядаюць палявыя суды. Калі жыццё і маёмасць немцаў апынуцца пад пагрозай, можна загадаць акты помсты”. І неўзабаве, два месяцы пазней, такі акт помсты быў здзейснены ў Райску.

Эрыха Коха лічаць аўтарам наступнага выказвання: „Мне трэба, каб паляк пры сустрэчы з украінцам забіваў украінца і, наадварот, каб украінец забіваў паляка. Калі да гэтага па дарозе яны застрэляць жыда, гэта будзе якраз тое, што мне трэба... Некаторыя наіўна ўяўляюць сабе германізацыю. Яны думаюць, што нам патрэбныя рускія, украінцы і палякі, якіх мы б вымусілі размаўляць па-нямецку. Але нам непатрэбныя ані рускія, ані палякі, ані ўкраінцы. Нам патрэбны ўрадлівыя землі”. Вікіпедыя: „Быў вядомы сваёй жорсткасцю і брутальнасцю, за што атрымаў у партыйных колах мянушку «другі Сталін». Быў рэкамендаваны міністрам усходніх акупаваных земляў А. Розенбергам на пасаду рэйхскамісара Расіі, дзе акупацыйны ржым мусіў быць найбольш жорсткім, але Гітлер прамым загадам прызначыў яго 1 верасня 1941 рэйхскамісарам Украіны. (...) З наступам Савецкай арміі паміж 23 красавіком і 7 мая 1945 уцёк на ледаколе «Ostpreußen». З Пілау праз Хельскую касу, Руген і Капенгаген дабраўся да Фленсбурга. У маі 1949 быў арыштаваны брытанскім войскамі. Савецкі Саюз настойваў на яго экстрадыцыі, але ж брытанскі ўрад вырашыў перадаць яго Польшчы. 9 сакавіка 1959 быў прыгавораны польскім судом да смерці за злачынствы супроць польскага насельніцтва (была даказаная яго вінаватасць у смерці 400 000 палякаў), аднак ніколі не быў асуджаны за злачынствы на тэрыторыі Украіны. Таксама як камісар Беластоцкай акругі і рэйхскамісар Украіны, куды ўваходзілі паўднёвыя беларускія землі, вінаваты ў вынішчэнні беларускага насельніцтва. Падчас суду казаў пра свае сімпатыі да СССР, ставіў за сваю заслугу супрацьдзеянне стварэнню ўкраінскай дзяржавы. Смяротны прысуд не быў выкананы, афіцыйна з-за праблемы са здароўем. Паводле некаторых версій, яму было даравана жыццё ў абмен на інфармацыю пра месцазнаходжанне скрадзеных немцамі ў часе вайны твораў мастацтва. Згодна з польскімі дысідэнцкімі крыніцамі, утрымліваўся ў даволі ўтульных умовах — меў тэлевізар, атрымліваў з Захаду часопісы і лекі”.

Украінскамоўная Вікіпедыя: „Яго праўленне ва Украіне адзначалася асаблівай жорсткасцю. Лічыў Украіну не нацыянальным, а тэрытарыяльным тэрмінам. Адпаведна гэтай пазіцыі выбраў сталіцай Рэйхскамісарыята Украіны горад Роўна. Лічыў украінцаў падлюдзьмі. Прычыніўся да смерці каля чатырох мільёнаў людзей ва Украіне. Яшчэ два з паловай мільёна чалавек былі дэпартаваны ў Германію, дзе працавалі як остарбайтары...”.

Смяротны прысуд на Эрыху Коху не быў выкананы, бо быццам важыў ён менш чым 50 кілаграмаў, а на такіх асобах прысуду не выконвалі. Аднак лічыцца, што прычынай яго камфортнага зняволення была надзея, што ўдасца ад яго раздабыць інфармацыю пра месца схову „Янтарнага пакоя”, скрадзенага гітлераўцамі пад Ленінградам. Аднак такое не ўдалося. Злачынца, на якога сумленні мільёны ахвяр, у выніку палітычнай інтрыгі жыў камфортна да натуральнай смерці ва ўзросце 90 гадоў.

Гадавіны трагедыі адзначаюць, у прынцыпе, толькі мясцовыя. Дарота Высоцкая: „Здавалася б, што сярод насельніцтва нашай краіны памяць аб Другой сусветнай вайне беражэцца і перадаецца чарговым пакаленням. З ходам часу, адходжаннем сведак, веды гэтыя застываюць у схемах, абагульненнях, фальшывых уяўленнях і „гадавінах у гонар”. Мілітарныя дзеянні, узбраенне, мундзіры, маюць сваіх паклоннікаў, займаюцца імі і даследчыкі, і любіцелі; штодзённае жыццё ў час акупацыі і тадышняя паўсюднасць злачынстваў утамляюць, не цікавяць...”.

Яўгенія Шумская: „Мінула 78 гадоў. Цягам столькіх гадоў адышло нават тое пакаленне, якое было вынесена на руках нашых мацярэй з тае страшнае трагедыі. Сёння звяртаюся да трэцяга пакалення, якое акружае нас. Гэта майму пакаленню перадалі і расказалі навочныя сведкі тую страшную трагедыю. Пасля столькіх гадоў стараемся перадаць вам, каб ніколі не забылі таго дня — 16 чэрвеня 1942 года. Гэта быў таксама аўторак, дажджлівая раніца. Гэта кроплі дажджу з неба абмывалі кроў тых нявінных людзей, якіх прыкрыла гэтая зямля. Гэта міла, што вашай згодай і арганізаванасцю, даказалі вы вашай працай, што не забудзеце таго дня. І перадавайце чарговым пакаленням гэтыя словы: „Бо то мама сама ўсё адбудавала і навучыла бліжняга любіць”. То на вашых вачах выраслі муры новай школы-тысячагодкі, будавалі краму, пункт прыёму малака, свінаферму; вырасла новая царкоўка, дзе вы хрысціліся, вянчаліся і радзілася трэцяе пакаленне. Гэта вы капалі выемкі пад фундаменты Дома культуры, які цягам сарака пяці гадоў быў гонарам і слаўваю нашай вёскі. Доказам таго быў дзень 17 чэрвеня 1973 года, калі наша вёска была ўзнагароджана Крыжам Грунвальда III класа, які быў памешчаны ў Ізбу народнай памяці. Гэта дзякуючы вам мы ўзбагацілі мемарыяльную сцяну памяткамі вашых блізкіх. Бо нават гісторыкі здолелі знайсці толькі 28 здымкаў нашых блізкіх, бо ўсё тое, што было памяткамі, было спалена разам з тымі, якія зыходзячы з жыцця хацелі, каб мы жылі годна. На брацкай магіле памардаваных узведзены помнік прысвечаны іхнім пакутам. На тым помніку ўзносяцца рукі ў неба. Гэта на іх памяць, бо гэта яны ўзносілі рукі ў неба і крычалі: „Бачыш, Божа, як нявінныя людзі гінуць!” Беражыце словы Райск! Бо Райск то рай — жыві і не ўмірай!”

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960
26